Газета творчай інтэлігенцыі Беларусі

# Літаратура і мастацтва

ISSN 0024-4686

№ 43 (4843) 30 кастрычніка 2015 г.

## Пункцірам

✔ Надзвычайны і Паўнамоцны Пасол Беларусі ў Расіі Ігар Петрышэнка перадаў віншавальнае пасланне і ўручыў каштоўны падарунак ад Прэзідэнта Рэспублікі Беларусь Аляксандра Лукашэнкі старшыні Саюза кінематаграфістаў Расійскай Федэрацыі, народнаму артысту РСФСР Мікіту Міхалкову з нагоды 70-гадовага юбілею. «У нашай краіне і далёка за яе межамі вас ведаюць як выдатнага акцёра і рэжысёра. Вы стварылі мноства работ, прызнаных класікай сусветнага кінематографа, а прэм'ера кожнага вашага фільма становіцца доўгачаканай і яркай падзеяй для ўсіх знатакоў кіно», — гаворыцца ў віншаванні.

✔ Кіраўнік дзяржавы наведаў творчы вечар Віктара Дробыша «Хіты і зоркі» ў культурна-спартыўным комплексе «Мінск-Арэна» і ўручыў кампазітару ордэн Францыска Скарыны. Дзяржаўнай узнагароды Рэспублікі Беларусь Віктар Дробыш удастоены за высокі ўзровень творчасці, значны асабісты ўклад у развіццё і ўмацаванне беларуска-расійскіх культурных сувязей.

✔ Нацыянальны гістарычны музей Рэспублікі Беларусь і Музей першага Прэзідэнта Рэспублікі Казахстан дамовіліся аб арганізацыі ў 2016 годзе выставачных праектаў. Плануецца, што беларускі музей прадставіць сваю выстаўку ў Казахстане, а Музей першага Прэзідэнта Казахстана падрыхтуе экспазіцыю для дэманстрацыі ў Беларусі.

✔ Творчы конкурс «Новыя імёны Беларусі-2016» пад эгідай Федэрацыі прафсаюзаў Беларусі, які прыйшоўся даспадобы гледачам і ўдзельнікам, стартуе ў лістападзе ў працоўных калектывах. Гэтым разам рэспубліканскі прафсаюзны конкурс, у якім бяруць удзел члены прафсаюзаў, пройдзе ў чатыры этапы з лістапада па май будучага года пад дэвізам «Ствараючы — ствараць!». Імёны пераможцаў стануць вядомы 1 мая.

✔ Дні польскага кіно пройдуць у Магілёве 12 — 15 лістапада. Гледачоў чакае рэтраспектыва фільмаў польскага рэжысёра Кшыштафа Краўзэ, які вядомы яшчэ і як сцэнарыст, аператар, акцёр, адзін з найбольш папулярных сучасных польскіх рэжысёраў аўтарскага кіно, лаўрэат шматлікіх узнагарод на міжнародных і польскіх кінафестывалях.

✔ Традыцыйны кінатыдзень «Тураўская восень», прысвечаны памяці айчыннага кінарэжысёра Віктара Турава, стартаваў 25 кастрычніка ў Магілёве. Пройдуць рэтраспектыўныя паказы фільмаў, адбудуцца творчыя сустрэчы, імпрэзы з удзелам вядомых дзеячаў кіно, аднакурснікаў і калег па рабоце Віктара Турава.

✔ У Рэспубліканскай мастацкай галерэі Беларускага саюза мастакоў распачаўся арт-праект «Іншыя паралелі». У экспазіцыі прадстаўлены жывапісныя творы членаў манументальна-дэкаратыўнай секцыі Беларускага саюза мастакоў.

ISSN 0024-4686



# Форум. Кніга. Час

**III Міжнародны кангрэс «Бібліятэка як феномен культуры» па тэме «Чытанне і інфармацыйная культура ў сучасным грамадстве» прайшоў у Нацыянальнай бібліятэцы Беларусі.**

Арганізатарамі мерапрыемства выступілі Міністэрства культуры Беларусі, Нацыянальная бібліятэка, Беларуская Праваслаўная Царква. У кангрэсе ўзялі ўдзел больш як 500 спецыялістаў, у тым ліку прадстаўнікі Азербайджана, Вялікабрытаніі, Германіі, Літвы, Польшчы, Расіі, Украіны, Фінляндыі. Сярод іх — супрацоўнікі бібліятэк, музеяў, архіваў, выдавецтваў, адукацыйных, навукова-даследчых устаноў і арганізацый, прадстаўнікі заканадаўчай і выканаўчай улады, а таксама праграмнага забеспячэння, тэхнічных сродкаў і інфармацыйнай прадукцыі.

Форум адкрыў дырэктар Нацыянальнай бібліятэкі Беларусі Раман Матульскі. З прывітальным словам да ўдзельнікаў кангрэса звярнуліся міністр культуры краіны Барыс Святлоў, намеснік старшыні Пастаяннай камісіі Палаты прадстаўнікоў Нацыянальнага сходу Беларусі Наталля Кучынская, дырэктар Нацыянальнага цэнтра прававой інфармацыі Яўген Каваленка, епіскап Барысаўскі і Мар'інагорскі Веніямін.


Фота Кастуся Дробава.

Удзельнікі кангрэса знаёмяцца з тэхналагічнымі інавацыямі Нацыянальнай бібліятэкі Беларусі.

Чытайце на стар. 2 ▶

# Агінскі: вядомы і невядомы


Фота Марыны Васкухі.

Артыст Мінскага абласнога драматычнага тэатра Аляксандр Пашкевіч у ролі Міхала Клеафаса Агінскага.

**По гісторыі жыцця дыпламата, палітыка, кампазітара Міхала Клеафаса Агінскага, чыё 250-годдзе шырока адзначаецца ў нашай краіне сёлета і ўваходзіць у спіс памятных дат ЮНЕСКА, можна напісаць не адзін захапляльны раман, зняць цікавы гістарычны фільм ці нават серыял.**

Толькі ўявіце: ужо з 21 года Міхал Клеафас знаходзіўся на дзяржаўнай службе, быў паслом Рэчы Паспалітай у Галандыі, а ў снежні 1790 года ўдзельнічаў у сакрэтнай дыпламатычнай місіі ў Лондане. Яго прымалі ў сталіцы Англіі на самым высокім узроўні. Агінскі ўдзельнічаў у паўстанні пад кіраўніцтвам Тадэвуша Касцюшкі, сустракаўся з Адамам Міцкевічам, імператрыцай Кацярынай ІІ ды імператарам Аляксандрам І, Напалеонам, Кутузавым… Ён імкнуўся вырашыць самыя важныя дзяржаўныя пытанні, клапаціўся пра дабрабыт краю, але… большасць бачыла ў ім толькі выдатнага кампазітара, аўтара знакамітага «Паланэза Агінскага».

Дзіўны парадокс: нягледзячы на тое, што Міхал Клеафас Агінскі быў музыкам-аматарам, не надаваў важнага значэння сваім паланэзам і пісаў іх толькі падчас адпачынку, гэтыя музычныя творы яшчэ пры жыцці кампазітара заваявалі сэрцы публікі ва ўсім свеце. Іх выдавалі ў Пецярбургу, Берліне, Мілане, Вільні, Філадэльфіі, іншых гарадах. У большасці выпадкаў партытуры выпускаліся без афіцыйнага дазволу кампазітара — гэта сведчыць пра сапраўдную любоў публікі. Адметна, што пры жыцці Міхала Клеафаса «Паланэзам Агінскага» называлі яго першы музычны твор — паланэз фа мажор, а пасля смерці музыканта гэтую назву атрымаў яго апошні паланэз — «Развітанне з Радзімай».

Чытайце на стар. 8 ▶

*У Саюзе пісьменнікаў Беларусі*

# Ісці супольнымі шляхамі

**У Саюзе пісьменнікаў Беларусі адбылася сустрэча з міністрам інфармацыі Рэспублікі Беларусь Ліліяй Ананіч і міністрам культуры Рэспублікі Беларусь Барысам Святловым. У ходзе размовы абмеркаваны шляхі ўзаемадзеяння абодвух міністэрстваў з творчай арганізацыяй.**




Фота Кастуся Дробава.

*Лілія Ананіч уручае старшыні СПБ Мікалаю Чаргінцу Падзяку міністра інфармацыі Рэспублікі Беларусь.*

Старшыня СПБ Мікалай Чаргінец распавёў пра некаторыя вынікі працы творчага аб'яднання і пра чытацкія сустрэчы з айчыннымі літаратарамі, колькасць запытаў на якія апошнім часам значна ўзрасла. Мікалай Іванавіч падкрэсліў: адзін з аспектаў дзейнасці СПБ — прыцягненне як мага большай колькасці людзей да чытання. Многія творцы, у тым ліку маладыя, адыгрываюць немалую ролю ва ўмацаванні краіны.

Міністр інфармацыі Беларусі Лілія Ананіч упэўнена: галоўная задача ў кірунку супрацоўніцтва з СПБ — ствараць суверэнную Беларусь, духоўнасць беларускага народа, генерыраваць новыя ідэі, тэмы, праекты. Гэта павінна эфектыўна ўкладвацца ў канцэпцыю задач дзяржаўнай інфармацыйнай палітыкі. Лілія Ананіч уручыла старшыні СПБ Мікалаю Чаргінцу Падзяку міністра інфармацыі Рэспублікі Беларусь за значны ўклад у развіццё нацыянальнага кнігавыдання, прапаганду творчасці беларускіх пісьменнікаў, кнігі і чытання. «Кніга — гэта не толькі духоўнасць і маральнасць. Гэта яшчэ і інтэлект, інвестыцыі», — зазначыла Лілія Станіславаўна.

Што да праблем… У сферы кнігавыдання і літаратурна-мастацкай перыёдыкі сёння ёсць пэўныя цяжкасці: назіраецца тэндэнцыя падзення тыражоў выданняў, адсутнічае паўнавартасны інстытут крытыкі. Паводле міністра культуры Барыса Святлова, «у культуры склаўся дэфіцыт добрых ідэй». Аднак шэраг прапаноў па супрацоўніцтве з міністэрствамі падчас сустрэчы ўнеслі і самі творцы: далучаць айчынных пісьменнікаў да маштабнага ўдзелу ў Днях культуры Беларусі за мяжой, у кінафестывалі «Лістапад», іншых мерапрыемствах.

**Яна ЯВІЧ**

# Вышыні дагестанскія

**Творчы вечар старшыні Праўлення Саюза пісьменнікаў Рэспублікі Дагестан, паэта, перакладчыка, публіцыста, літаратурнага крытыка Магамеда Ахмедава адбыўся ў сталічным культурна-дзелавым цэнтры «Дом Масквы».**

Народны паэт Рэспублікі Дагестан, лаўрэат шматлікіх літаратурных прэмій, аўтар шэрагу кніг, Магамед Ахмедаў упэўнены: чалавек, які не любіць, не шануе родную мову, культуру, гісторыю, родны народ, не здольны любіць іншыя народы. Піша Магамед Ахмедаў на дзвюх мовах — аварскай і рускай.

Падчас сустрэчы быў прэзентаваны зборнік вершаў М. Ахмедава «Горная ліра», перакладзеных старшынёю Мінскага гарадскога аддзялення Саюза пісьменнікаў Беларусі Міхасём Пазняковым. Кніга пабачыла свет сёлета ў серыі «Бібліятэка Саюза пісьменнікаў Беларусі» айчыннага выдавецтва «Чатыры чвэрці». Вядучы вечара, член СПБ, паэт, перакладчык, скульптар Хізры Асадулаеў уручыў госцю Ганаровую грамату Міжнароднага грамадскага аб'яднання дагестанцаў «Гаро» за ўклад у развіццё аварскай мовы і літаратуры ды ўмацаванне дружбы паміж народамі Расіі (у прыватнасці Дагестана) і Беларусі. Акрамя таго, Магамед Ахмедаў стаў ганаровым членам СПБ. Міхась Пазнякоў уручыў творцы членскі білет і медаль «За вялікі ўклад у літаратуру».

Са сцэны гучалі вершы не толькі Магамеда Ахмедава (у тым ліку і па-аварску), але і Хізры Асадулаева, маладой паэтэсы, лаўрэата Міжнароднай літаратурнай прэміі імя Сяргея Ясеніна «О Русь, взмахни крылами…» Ганны Мартынчык, а таксама пераклады Міхася Пазнякова і паэта, галоўнага рэдактара часопіса «Новая Немига литературная» Анатоля Аўруціна ў аўтарскім выкананні. Асаблівы, меладычны, каларыт вечарыне надалі салісты Маладзёжнага тэатра эстрады Дзмітрый Сяргееў і Андрэй Шумак, а таксама салісты ансамбля народнага танца «Легенда Каўказа».

**Яна ЯВІЧ**

**Заканчэнне. Пачатак на стар. 1.**

# Форум. Кніга. Час

«Сёння ў кожнай пятай бібліятэцы краіны функцыянуюць публічныя цэнтры прававой інфармацыі, абсталяваныя неабходнымі тэхнічнымі рэсурсамі і выданнямі па прававой тэматыцы», — адзначыў кіраўнік НЦПІ Яўген Каваленка. Паводле яго слоў, досвед супрацоўніцтва Нацыянальнага цэнтра прававой інфармацыі і бібліятэк сведчыць пра тое, што кніжніцы своечасова рэагуюць на патрабаванні сучаснага інфармацыйнага грамадства, садзейнічаюць павышэнню даступнасці прававой інфармацыі, тым самым — прававой культуры грамадства ўвогуле. Раман Матульскі нагадаў, што Нацыянальная бібліятэка і НЦПІ нядаўна адкрылі першую за межамі нашай краіны віртуальную залу інфармацыйных рэсурсаў Беларусі, а таксама цэнтр эталоннай прававой інфармацыі — у Зале беларускай дыяспары Дзелавога і культурнага комплексу Пасольства Беларусі ў Расійскай Федэрацыі. Ён выказаў спадзяванне, што на гэтым партнёрства Нацыянальнай бібліятэкі і цэнтра прававой інфармацыі не спыніцца.

Адбылася цырымонія ўзнагароджання пераможцаў I Рэспубліканскага конкурсу «Бібліятэка — цэнтр духоўна-маральнай асветы і выхавання», заснавальнік якога — Беларускі Экзархат. Епіскап Барысаўскі і Мар'інагорскі Веніямін уручыў пераможцам граматы, іконы, камплекты кніг.

На пленарным пасяджэнні абмяркоўваліся пытанні развіцця публічных бібліятэк у гістарычным ракурсе, разглядаліся асноўныя вектары дзяржаўнай палітыкі ў галіне бібліятэчнай справы ў кантэксце рэалізацыі дзяржаўных праграм, аналізавалася роля кніжніц у падтрымцы і развіцці чытання, прапаноўваліся шляхі развіцця бібліятэк на сучасным этапе.

Двухдзённая праграма мерапрыемства атрымалася цікавай і насычанай. Пасля пленарнага пасяджэння кангрэс працягнуўся ў фармаце семінараў і «круглых сталоў». Актыўна абмяркоўвалася ўзаемадзеянне ўстаноў культуры, навукі, адукацыі і бізнесу; кіраванне бібліятэкай на сацыяльнай і медыйнай прасторах; абарона правоў інтэлектуальнай уласнасці; роля бібліятэк у захаванні нацыянальнай і сусветнай кніжнай спадчыны; праблемы кадраў і адукацыі ў бібліятэчнай прафесіі ды інш.

Першы дзень мерапрыемства завяршыўся экскурсіяй па Нацыянальнай бібліятэцы Беларусі. У межах кангрэса працавала выставачная пляцоўка, дзе можна было пазнаёміцца з тэхнічнымі і тэхналагічнымі інавацыямі, інфармацыйнымі прадуктамі і паслугамі, набыць выдавецкую і сувенірную прадукцыю. Былі прадстаўлены і работы пераможцаў XXII Рэспубліканскага конкурсу «Бібліятэка — асяродак нацыянальнай культуры», у якім штогод бяруць удзел публічныя бібліятэкі нашай краіны.

**Дар'я ЛАТЫШАВА**

*Стасункі*

# Акцэнт — на пераклады

**У Сербіі праходзіць юбілейная — 60-я па ліку — Міжнародная кніжная выстаўка: больш як 400 выдавецтваў з 20 краін свету!**

Прадстаўнічым з'яўляецца ўдзел у свяце кнігі беларускага боку. Наша краіна выклала выданні на агульным стэндзе «Кнігі Рэспублікі Беларусь». Дэлегацыю Міністэрства інфармацыі Рэспублікі Беларусь узначальвае намеснік дырэктара Выдавецкага дома «Звязда» — галоўны рэдактар часопіса «Нёман» Аляксей Чарота.

На айчынным стэндзе шмат дзіцячай літаратуры. У тым ліку выданняў «Звязды».

— Увагу наведвальнікаў прыцягваюць самыя розныя кнігі — як добра вядомых у нашай краіне аўтараў, так і маладых пісьменнікаў, — гаворыць Аляксей Чарота. — Спадзяюся, што такая ўвага стане падставай для перакладчыцкіх сувязей. Мяне асабіста ўразіла тая шырыня кніг, якія выдаюцца па-сербску. Відавочна, што нашы браты-славяне з цікавасцю ставяцца да рускай літаратуры. Шмат перакладных выданняў.

На беларускім стэндзе была прэзентавана кніга мінскага выдавецтва «Белпрынт» — «Беларусы пра Сербію і Югаславію». Яе з цікавасцю разглядалі намеснік старшыні Парламента Сербіі Уладзімір Марынкавіч, намеснік міністра культуры і інфармацыі Сербіі Ася Мунтэан, дыпламаты пасольстваў Расіі, Азербайджана, Кітая, Індыі, Пакістана, якія працуюць у Сербіі, сербскія кнігавыдаўцы, прадстаўнікі грамадскіх арганізацый.

— Гэтая кніга — вынік майго шматгадовага збору выказванняў беларусаў, ураджэнцаў Беларусі пра Сербію, Югаславію, — дзеліцца сваімі развагамі ўкладальнік кнігі, доктар філалагічных навук Іван Чарота. — Пачатак пакладзены Максімам Багдановічам. Ёсць у кнізе і водгукі Янкі Купалы, Анатоля Вялюгіна, Пімена Панчанкі, Максіма Танка, Янкі Брыля, Генадзя Пашкова і шмат яшчэ каго з беларускіх пісьменнікаў і публіцыстаў.

**Кастусь ХАДЫКА**

*З нагоды*

# Як само жыццё

**Галоўным героем чарговай творчай сустрэчы ў літаратурным клубе «Шчырасць» пры сталічнай публічнай бібліятэцы № 22 стаў Уладзімір Гніламёдаў — член Саюза пісьменнікаў Беларусі, акадэмік Нацыянальнай акадэміі навук Беларусі, доктар філалагічных навук, прафесар.**



Падчас вечарыны ў кніжніцы дэманстравалася выстаўка выданняў і публікацый госця «Заставаца сабой…». З-пад пяра Уладзіміра Гніламёдава выйшлі раманы «Уліс з Прускі», «Расія», «Вяртанне», «Валошкі на мяжы», «Вайна», манаграфіі «Традыцыі і наватарства», «Сучасная беларуская паэзія: Творчая індывідуальнасць і літаратурны працэс», «Іван Мележ: Нарыс жыцця і творчасці», зборнікі літаратурна-крытычных артыкулаў «Упоравень з часам», «Як само жыццё», «Ля аднаго вогнішча», «Класікі і сучаснікі», «Ад даўніны да сучаснасці» ды іншыя.

Адкрыццё літаратурнай гасцёўні пачалося з мультымедыйнай прэзентацыі пра жыццё і творчасць Уладзіміра Васільевіча, падрыхтаванай супрацоўнікамі бібліятэкі. Суправаджалася прэзентацыя ўнікальнымі фотаздымкамі з асабістага архіва госця.

Старшыня Мінскага гарадскога аддзялення СПБ, кіраўнік літаратурнага клуба «Шчырасць» Міхась Пазнякоў прадставіў Уладзіміра Гніламёдава публіцы як дасведчанага літаратуразнаўцу і крытыка, майстра беларускага слова. Падчас імпрэзы Уладзімір Васільевіч адказаў на шматлікія і не заўсёды простыя пытанні аўдыторыі пра асаблівасці творчага працэсу, пра любімых пісьменнікаў, сямейныя традыцыі.

**Раіса ГРАБЛЮК**

*Імпрэзы*

# Рыфмы і фарбы

**Творчы вечар графіка, паэта, старшыні Беларускага саюза мастакоў Рыгора Сітніцы пад сімвалічнай назвай «Канцэрт для скрыпкі і завірухі» прайшоў у Дзяржаўным літаратурна-мемарыяльным музеі Якуба Коласа.**

У адной зале сабраліся вядомыя мастакі, пісьменнікі, грамадскія дзеячы, людзі творчыя і рамантычныя, з багатым унутраным светам. Віноўнік вечарыны дэкламаваў вершы эмацыянальна, узнёсла, шчыра. Урэшце, для многіх гасцей вестка аб тым, што Рыгор Сітніца — паэт, стала прыемнай навіной. Але, як паведаміў міністр культуры Беларусі Барыс Святлоў, таленавіты чалавек паспяховы ва ўсім, за што бярэцца з душою.

Яшчэ адзін госць вечарыны, старшыня Беларускага фонду культуры Уладзімір Гілеп, звяртаючыся да мастака і паэта, зазначыў: «Кожны раз, калі слухаю вершы, душа некуды рвецца! Але знайсці іх у інтэрнэце — вялікая праблема. Хутчэй бы выйшла ўласная кніга!». Кніга ў Рыгора Сітніцы быццам бы ўжо гатовая, але толькі ў электронным варыянце. Застаецца верыць, што задуманую справу аўтар не адкладзе.

Вечар у Доме Коласа, як і пасуе гэтаму ўтульнаму месцу, быў абсалютна нефармальным: гукі рыфмаваных радкоў перамяжаліся спевамі і акордамі фартэпіяна, жартамі і ўсмешкамі, пажаданнямі і ўспамінамі.

Рыгор Сямёнавіч чытаў вершы пра маленькую скрыпку, што грала, нягледзячы на завею, пра святло, якое не схавае ніякі цень, загадкавую Суламіф, самотных людзей і начныя цягнікі… Размова ішла пра Бога і надзею, без якой немагчыма жыць, няўмольны час і памяць, што часам нагадвае бяздомнага сабаку, які гойсае па вуліцы ў дажджлівы вечар… Вершы зусім розныя: ад казкі пра ліхтарык, які закахаўся ў маленькую лужынку, поўную неба і сонечнага святла, да пранікнёнай інтымнай лірыкі. «Усе вершы пачынаюцца з кахання!» — сцвярджае Рыгор Сямёнавіч.

Шмат казаў аўтар пра сваё знаёмства з Рыгорам Барадуліным. Менавіта Барадулін даў савет паэту-пачаткоўцу: публікуй свае творы! Дагэтуль Рыгор Сітніца займаўся паэзіяй толькі для сябе. А потым яго сталі друкаваць.

Успаміны прывялі героя лірычнай вечарыны і да дзяцінства, асабліва школьных гадоў, калі перад настаўнікам у роднай вёсцы Курыцічы Петрыкаўскага раёна Гомельскай вобласці ўсе дзеці здымалі шапкі, а ў сэрцы маленькага Рыгора нараджалася прага да мастацтва... Размовы пра мінулае ўдала дапаўняла прэзентацыя ўнікальных фотаздымкаў з сямейнага архіва.

У гэты ж дзень у Доме Коласа адкрылася і выстаўка Рыгора Сітніцы, прысвечаная звычайным рэчам. На палотнах можна ўбачыць фрагменты вясковых пабудоў ці гародніну ў драўляным посудзе, прадметы штодзённага побыту. Што ў гэтым асаблівага? На карцінах Сітніцы сімвалізм дзіўным чынам спалучаецца са спрадвечнай беларускасцю, адметным нацыянальным каларытам. Пры гэтым, як кажуць мастацтвазнаўцы, ён удала спалучае канструктывізм з рэалізмам. Любоў да кожнай справы і людзей, што побач, — можа, у гэтым сакрэт поспеху?

**Марыя ВОЙЦІК**

# Да Глебкі…

**Уздзеншчыну наведалі пісьменнікі і супрацоўнікі Дзяржаўнага музея гісторыі беларускай літаратуры. Нагода — 110-гадовы юбілей Пятра Глебкі, які адзначаецца сёлета.**

Члены Саюза пісьменнікаў Беларусі Васіль Шырко, Алесь Марціновіч, Іна Фралова, супрацоўнікі музея гісторыі беларускай літаратуры Лідзія Шагойка, Алена Канапацкая, Таццяна Ушылава завіталі ў Ліцвянскую базавую школу імя П. Глебкі, раённы гісторыка-краязнаўчы музей, дзе сабраны багаты матэрыял пра нашага вядомага земляка. Сустрэліся з настаўнікамі і вучнямі Уздзенскай СШ № 1 імя А. Пушкіна.

— Мы завіталі сюды ў межах праекта «Літаратурнае падарожжа», — адзначыла загадчык культурна-адукацыйнага аддзела вышэйзгаданага музея Лідзія Шагойка. — Лічу, што вельмі важна сустракацца з нагоды юбілеяў слынных людзей Беларусі не толькі ў сталічных музеях, бібліятэках, але і на малой радзіме, каб падыхаць тым жа паветрам, прайсціся сцежкамі іх дзяцінства…

Супрацоўнікі музея і творцы нагадалі прысутным асобныя факты з біяграфіі Пятра Глебкі, чыталі яго вершы, пераклады з А. С. Пушкіна.

Асабліва цікавым для вучняў было выступленне выпускніка гэтай жа школы Васіля Шырко, які ў свой час за кнігу «Беларусь маладая» быў удастоены Дзяржаўнай прэміі Рэспублікі Беларусь.

У школьную бібліятэку госці перадалі падборку кніг беларускіх творцаў.

**Віктар САБАЛЕЎСКІ**

# Відушчыя сэрцам

З шэрагу бібліятэчных мерапрыемстваў, прымеркаваных да Дня маці, — сустрэча ў пункце выдачы кніг пры спецыяльнай гарадской бібліятэцы для сляпых і людзей з аслабленым зрокам, што месціцца па вуліцы Якубоўскага. Арганізаваны ён па ініцыятыве дырэктара Цэнтралізаванай сістэмы дзяржаўных публічных бібліятэк г. Мінска Алены Кубышкінай.

Гасцямі імпрэзы сталі празаік, сцэнарыст, бард Сяргей Трахімёнак і галоўны спецыяліст МГА СПБ паэтэса Іна Фралова. Сяргей Трахімёнак прэзентаваў новыя кнігі «Тунгускі балід» і «Геном Ньютана», выканаў песні на словы Мікалая Шыпілава, Аляксандра Вярцінскага. Іна Фралова прачытала ўласныя вершы і распавяла пра некаторыя творчыя вандроўкі.

***

Сумесны літаратурны праект Мінскага гарадскога аддзялення СПБ і сталічнай сістэмы дзіцячых бібліятэк стартаваў у Дзень маці. Урачыстае адкрыццё новай літаратурнай гасцёўні «Верасок» адбылося ў дзіцячай бібліятэцы № 16, дзе слухачамі сталі вучні 4 класа СШ № 127.

Загадчык бібліятэкі і апякунка праекта Вольга Ціткова распавяла гісторыю заснавання Дня маці ў нашай краіне і прадставіла дзецям гасцей — дзіцячую пісьменніцу Ніну Галіноўскую і паэтэсу Іну Фралову, якая прачытала некалькі новых уласных дзіцячых вершаў. Адбылася прэзентацыя кнігі Ніны Галіноўскай «Няма даравання вайне», якая выйшла да сямідзесяцігоддзя Вялікай Перамогі ў серыі «Дзеці вайны», што выпускае выдавецтва «Чатыры чвэрці». Супрацоўнікі кніжніцы падрыхтавалі для ўсіх удзельнікаў мерапрыемства незвычайныя паштоўкі.

**Ганна СТАРАДУБ**

***

Каб яшчэ раз нагадаць школьнікам, што клапаціцца і быць уважлівымі да матуль трэба не толькі ў Дзень маці, Дзяржаўны музей гісторыі літаратуры сумесна з дзіцячай бібліятэкай № 6 імя Васіля Віткі арганізаваў мерапрыемства «Ты ў сэрцы маім, Мама».

Госцем імпрэзы стаў Уладзімір Ліпскі — аўтар больш як 70 кніг прозы, дакументальных аповесцей, публіцыстыкі, мастацкіх твораў для дзяцей. Уладзімір Сцяпанавіч ужо 37 гадоў узначальвае дзіцячы беларускамоўны часопіс «Вясёлка», а год таму стварыў часопіс-маляванку для дашкольнікаў «Буся». Яго пяру належыць кранальная споведзь усіх «дарослых дзяцей» перад бацькамі — кніга «Мама. Малітва сына». Уладзімір Ліпскі падзяліўся са школьнікамі ўспамінамі пра сваё дзяцінства, якое спапяліла вайна, пра доўгі прафесійны шлях...

Напрыканцы выступлення Уладзімір Сцяпанавіч пранікнёна прачытаў сваю шчырую сынаву малітву, закончыўшы яе словамі: «Мама! Ты ў сэрцы маім. Цяпер, і ўвесь час, і на векі вякоў».

**Дар'я ЛАТЫШАВА**

# Паразумецца!

Члены Саюза пісьменнікаў Беларусі сустрэліся з творчай моладдзю замежных краін падчас міжнароднага форуму «Руская мова — аснова ўзаемаадносін таленавітай моладзі». Студэнты і вучні старэйшых класаў з Расіі, Украіны, Латвіі, Балгарыі, Сербіі, Грузіі і Італіі на тыдзень прыехалі ў Мінск, каб пазнаёміцца з нацыянальнай культурай і ладам жыцця. Сярод гасцей — танцоры, вакалісты, філолагі, будучыя журналісты.

Форум прайшоў на базе сярэдняй школы № 70. Як распавяла дырэктар навучальнай установы Яўгенія Рудава, кожны дзень форуму прысвечаны пэўнай тэме. Сустрэча з беларускімі пісьменнікамі была прымеркавана да дня літаратуры. Старшыня Мінскага гарадскога аддзялення СПБ Міхась Пазнякоў пазнаёміў моладзь з творчасцю членаў суполкі, расказаў пра літаратурныя конкурсы, перыядычныя выданні і новыя кнігі. Анатоль Аўруцін, Валянціна Паліканіна і Алена Міхаленка прачыталі свае вершы і адказалі на пытанні.



*Фота Кастуся Дробава.*

*Паэт Анатоль Аўруцін і дырэктар мінскай школы № 70 Яўгенія Рудава ў Саюзе пісьменнікаў Беларусі.*

Адной з самых цікавых тэм для абмеркавання стала стаўленне сучасных дзяцей да паэзіі. Як дапамагчы школьніку палюбіць вершы? У кожнага творцы знайшоўся свой адказ. Міхась Пазнякоў як бацька і дзядуля параіў пачынаць з твораў, цікавых для пэўнага ўзросту. На думку аптымістычнага Анатоля Аўруціна, людзі прыходзяць да паэзіі праз каханне, таму ў падлеткавым узросце ўсе робяцца крыху паэтамі і выяўляюць цікавасць да лірыкі. Галоўны рэдактар духоўна-асветніцкай газеты «Воскресение» Алена Міхаленка заўважыла, што бацькі звычайна чытаюць кнігі разам з дзецьмі-дашкольнікамі, а пасля адмяжоўваюцца ад гэтай справы.

Каб паразумецца, моладзь з розных краін карысталася рускай мовай. Члены СПБ падкрэслілі значнасць мовы-пасрэдніка, якая дапамагае не толькі ў стасунках, але і ў справе ўзаемных перакладаў. Арганізатар мерапрыемства галоўны рэдактар часопіса «Руская школа» Аляксандр Кондракоў выказаў упэўненасць, што паразуменне ўдзельнікаў форуму — перадумова далейшага сяброўства.

**Янка НАТАВЕЦ**

**Мінскае гарадское аддзяленне Саюза пісьменнікаў Беларусі запрашае:**

**30 кастрычніка** — *у Школу юнага літаратара пры Мінскім гарадскім аддзяленні СПБ (вул. Фрунзэ, 5-309). Кіраўнік — пісьменнік Міхась Пазнякоў. Пачатак а 14-й гадзіне.*

**31 кастрычніка** — *на літаратурна-музычнае свята «Калі душа спявае». Імпрэза адбудзецца ў бібліятэцы Цэнтральнага Дома афіцэраў (вул. Чырвонаармейская, 3). Пачатак а 11-й гадзіне.*

**3 лістапада** — *на творчую сустрэчу з пісьменнікамі Мінска і Санкт-Пецярбурга, прысвечаную «Каласавінам». Мерапрыемства ладзіцца ў Дзяржаўным літаратурна-мемарыяльным музеі Якуба Коласа (пр. Незалежнасці, 66а). Пачатак а 16-й гадзіне.*

**4 лістапада** — *на творчую сустрэчу з паэтам і перакладчыкам з Санкт-Пецярбурга Глебам Артханавым, якая пройдзе ў Цэнтральнай гарадской бібліятэцы імя Янкі Купалы (вул. В. Харужай, 16). Пачатак а 14-й гадзіне.*

**4 лістапада** — *на свята дзіцячай кнігі ў дзіцячую бібліятэку № 6 (вул. К. Лібкнехта, 98) з удзелам старшыні секцыі дзіцячай літаратуры СПБ Уладзіміра Мазго. Пачатак а 13-й гадзіне.*

**5 лістапада** — *у студыю мастацкага чытання «Вобраз» пры СШ № 23 (вул. П. Панчанкі, 56). Кіраўнік студыі — пісьменніца Наталія Касцючэнка. Пачатак а 13-й гадзіне.*

**5 лістапада** — *у літаратурны клуб «Спадчына» пры гімназіі № 35 (вул. Кіжаватава, 70) на творчую сустрэчу з пісьменнікам Валерыем Чудавым, падчас якой адбудзецца прэзентацыя яго кніг гістарычнай тэматыкі. Пачатак а 14-й гадзіне.*

**6 лістапада** — *у літаратурны клуб «Пад белымі крыламі» пры гімназіі-каледжы І. В. Ахрэмчыка (вул. Макаёнка, 4) на творчую сустрэчу з паэтэсай Нінай Галіноўскай. Пачатак а 14-й гадзіне.*



**Тамара КРАСНОВА-ГУСАЧЭНКА**

## Ты прабач

*Чытай маю кнігу. Мо стане тваёй?
Тут нашыя дні, што нясуцца наўскач.
У гэтых радках — маіх думак сувой,
А што не сумела сказаць — ты прабач.*

*Прабач, што й табе несалодка было,
Што здрада і слава суседзяць штоміг.
Жыццём я спасцігнула ісцін святло:
Не выказаць горычы, болю за ўсіх.*

*Паперу, аловак бяры — і пішы,
І ў бедах-нягодах адкрыйся да дна.
Хай рвецца плаціна пакутаў душы
І боль выцякае, і нікне віна…*

## Бабуля Алёна

*Мне бабуля выткала
Вечар, сенажаць:
На траве налітыя
Яблыкі ляжаць…*

*Над ружовай рэчкаю —
Казачная гладзь,
І стажочкі — свечкамі
Свецяцца, гараць…*

*А дзядулю ў ножанькі —
Беленькі ручнік,
Каб паслаў ім Боженька
Долю на дваіх…*

*Ці не той жа ніткаю,
Можа, на вякі
Мне бабуля выткала
Гэтыя радкі…*

## Стамілася

*А душа не ўмяшчае ні гэтага цёплага
ранку,
Што напоўнены пахам чаромхі
ды свежай раллі,
Ні сінюткіх нябёс, ні шчаслівых буслоў
на буслянцы,
А самоціцца-плача і сонцу не рада калі.*

*Бо стамілася проста. Для радасці
сілы замала.
Так стамляюцца жылы ад доўгай
пакутнай хады,
Так губляе надзею і зорка, што
знічкаю стала,
Так рака перасохлая марыць
аб кроплі вады.*

*Марнасць сэрцабіцця, а наўкол —
каралеўства падману
І ліслівых усмешак халодна-пакутлівы
шчым…
І пагляду, што цэліцца ў шэрую прорву
туману,
Не адвесці, бадай, не сагрэць,
не звясновіць нічым.*

***

*Промнем ліхтара ўварваўся вечар —
і упалі ўраз між берагамі
вельмі неглыбокага — па плечы —
вадаёма — дагары нагамі:
неба, травы, яблыні і грушы.
Цені ад вячэрняга туману
сцёрлі ўсе абрысы, ты паслухай
гэты шэпат, спелых зор мігценне
там, на гулкім дне, і зіхаценне —
у стаўку, што побач, перад намі,
дзе вада — танюткімі кругамі…
Паднырнуць пад вечнасць? Дык яна,
пэўна ж, тут і, пэўна што, без дна!..*

*Мой ставок малы, я гэта знаю,
ды настрой такі, і ноч — такая.*

***

*А музыка пад стрэхамі начуе,
І той, хто не глухі, калісь пачуе…*

*Яе сляпы музыка сачыняе,
А жонка запісаць яе імкнецца.
Дачка пасля развучыць і сыграе,
Да клавішаў пяшчотна дакранецца…
І хтосьці (мо ад шчасця?) зарыдае,
І ў кімсьці лёс,
як рэха,
адгукнецца.*

## Водар мяты

*Я адпрэчу гады,
бо сялянскай закваскі,
і вярнуся туды,
нібы ў дзіўную казку.*

*Там, у вёсцы маёй, —
залатыя імгненні.
Пад начной сінявой
пахадзіць так прыемна.*

*Ўсё пакіну я вам,
жыхары гарадскія:
шамаценне рэклам
і агрэхі людскія.*

*Ўсе заслугі, чыны,
Стос падзяк (аж да неба)
я забуду — яны
там, на вёсцы, ці трэба?*

*Водар мяты, палын —
мне найлепшыя лекі.
Вёска ў сэрцы маім
сёння, заўтра, навекі.*

***

*Я ніколі цябе не забуду,
Ну, а ты забывай, забывай.
Толькі хвілю з табою пабуду —
І памчуся ў заснежаны край.*

*У абдымкі сівой завірухі,
Што імкліва заснежыць мой след.
Не супыніш ні словам, ні рухам,
Нават позірк не кінеш наўслед.*

*Адчуваючы спіною холад
Дзён мінулых, былых перамог,
Не пачую сталёвы твой голас
На сляпых скрыжаваннях дарог.*

*Так балюча ступаю. Увішны
Крок мой слабне і тупіцца зрок.
Мо адзін толькі знае Ўсявышні,
Што зрабіла я правільны крок.*

*Ён адзін прамаўляе здалёку:
Пройдзе ўсё, і я буду лятаць,
І вясной маладой, сінявокай
Буду песні аб шчасці складаць.*

*Толькі я… Я нічога не знаю,
Ад былога — дзяўчынкай бягу,
І, як свечка, у цьме дагараю,
І нічога забыць не магу.*

## Залатая кропля

*Зноў завірухі, снегавеі…
Ані праезду, ні праходу…
А чаша лёсу ўсё паўнее
Так немінуча год ад году.*

*Яшчэ нядаўна — паўпустая,
А заўтра можа і праліцца.
Не трэба, кропля залатая,
Дай мне напоўніцу адбыцца.*

*Не адрывайся, супыніся,
Шчэ паваюем мы нямала.
Не ўсе дажджы шчэ праліліся,
Не ўсе шчэ травы адбуялі.*

*Не ўсе мной пройдзены дарогі,
І кожны міг — такі салодкі.
Закон апошняй кроплі строгі,
Няўмольны ён, ды «ўсё-ткі, ўсё-ткі…»*

***

В. Ф. і В. А.Пярвушыным

*У людзей і прыроды — пара лістападу…
О, якая ж ты шчодрая, восень, да змогі:
Цёпла-жоўтае золата — сэрцу
на радасць —
Безаглядна-бязрупатна кінуць пад ногі!*

*І заснуць да марозу, да сцюжы, да граду…
І ці варта шукаць нам найлепшае долі?
Мы даўней і сягоння — адзінаму рады:
Сэрца ў сэрца пражыць
і не здрадзіць ніколі.*

***

*Ну, не спі ты! Мне так мала
Прыгажосць адной глядзець.
Ночка зырка адпалала,
І зара прыйшла — гарэць.*

*Нараджалася нясмела,
Разлілася ж — не стрымаць,
Так, здаецца, зазвінела,
Што нікому не суняць.*

*Затрубіла, нібы ў трубы.
О зара! Душы наіў!..
Ты праспаў, я плачу:
— Любы!
Не знайсці, калі згубіў…*

**Пераклаў з рускай мовы
Мікола ШАБОВІЧ**



Фота Кастуся Дробава.



**Серафіма БЕСТАВА**

## Радзіме

*Я любоў к табе, Радзіма,
зберагу.
Я табе, як маці роднай,
не салгу.
Усё тут дорага, куды ні кіну
вокам.
Без цябе было б мне вельмі
адзінока.
І другой бы не шукала
я зямлі.
Мне твая слязіна кожная
баліць.
І табе, мая Радзіма, я жадаю
Дабрабыту і высокага ўраджаю.*

***

*Люблю цябе, мой край, крывінкай
кожнай —
Ад вераб'я і да лісточка на таполі.
Ці хораша табе, ці спеўна,
ці трывожна —
Я ад цябе не адракуся аніколі.
Усім, што маю, я з табою падзялюся.
З тваіх крыніц пап'ю жывой вадзіцы.
Мне тут на шчасцейка пяро
аброніць бусел,
Мне тут бярозачка нібы сястрыца.
Не трэба слоў гарачых і прамоў.
Хачу я сціпла ў вернасці прызнацца.
Хацела б квеценню тваіх садоў,
Вясну зноў прычакаўшы, любавацца.*

***

*З роднай зямелькаю,
Сціплай, сардэчнаю,
З той, што загойвае,
З той, што вылечвае,
Нагаваруся, нагаваруся
З роднай зямелькаю,
З Белаю Руссю.
Як да матулі сваёй, прытулюся,
Ёй раскажу я, чым ганаруся,
Чым я жыву і на што спадзяюся…
З роднай зямелькаю,
З Белаю Руссю,
Нагаваруся, нагаваруся.*

## Аб маёй Радзіме

*Край буслоў, каліныяснавокай,
Край празрыстых, срэбраных крыніц.
Край бярозак і ялін высокіх,
Край чабору, пахкіх медуніц.
Край бязмежнага зялёнага прастору,
Пасярод Дняпро плыве шырокі,
Уначы купаюцца ў ім зоры,
Днём палошчуць пёркі тут аблокі.
Край блакітных сонечных нябёсаў,
Край мурожнай і густой травы.
Кожны год сюды прыносяць вёсны
З-за краёў заморскіх жуpавы!
Птушкі тут пяюць па-залівацку
Ад зары да самае зары.
Спяць салдаты у магілах брацкіх,
Непагасны там агонь гарыць.
І зязюля штовясну кувае.
Ясна ўсім, аб чым я гавару.
Я кажу аб родным, мілым краі,
Аб Радзіме, што завецца Беларусь.*

# Абразкі

## Белая варона

— Скажыце, калі ласка, вы будзеце выходзіць?

Я азірнуўся: ззаду стаіць негр, твар як засланка, адно зубы белыя. Хто ж гэта папытаўся? Вадзіцель далёка, дзве дзяўчынкі сядзяць, пасміхаюцца, але ж голас мужчынскі. Як з неба ўсё роўна. Містыка нейкая.

— Прабачце, калі ласка, можа, вы не пачулі? Я ў вас пытаюся, ці будзеце вы выходзіць? — старанна падбіраючы словы, сказаў чалавек.

Я абалдзеў: негр гаварыў на чысцюткай беларускай мове!

— Так, я выходжу.

І выйшаў, хоць трэ было праехаць яшчэ прыпынак. Трамвай пакаціў далей. Не вытрываў, спытаўся ў негра:

— Дзе вы навучыліся так добра гаварыць па-беларуску?

І вось якую гісторыю я пачуў ад Томаса.

На пачатку дзевяностых, калі ў нас панавала бязладдзе, беспрацоўе, у крамах — чэргі, талоны, купоны, група беларускіх спецыялістаў вырашыла з'ехаць у Афрыку. І не ў які-небудзь Алжыр ці Егіпет, а ў самы цэнтр кантынента — у Эфіопію. Двое хлопцаў-медыкаў пабывалі там раней. Афрыканцы вельмі чула ставіліся да іх, ледзьве на руках не насілі. І вось хлопцы ўзяліся вербаваць аднадумцаў. Урэшце сабралася група — некалькі дзясяткаў чалавек. Ехалі не ўсе адразу — а малымі групамі, але там, у Эфіопіі, атайбаваліся ў адным ладным гарадку. Стараліся сяліцца паблізу, адкрылі сваю школку. Вырашылі цвёрда: зберагчы родную мову, нашы традыцыі, адзначаць святы, каб і ў далёкай Афрыцы застацца беларусамі.

Неяк вясною моцна захварэў негрыцянскі хлопчык Томас. Выратаваў яго беларускі доктар Васіль. Потым Васіль з'ехаў у Мінск, але праз нейкі час вярнуўся. Пра гэта Томас дачуўся ад сваіх бацькоў.

Неўзабаве ён пасябраваў з Васілёвым сынам Янкам і дачкою Алесяй. Хлопчыку асабліва спадабалася Алеся. Тварык дзяўчынкі белы, чысты, вочы сінія, а валасы даўжэзныя, амаль да пояса. Томаса дзівіла, што Алесіны валасы не закручваюцца ў кароткія густыя кудзеркі, чорныя, як варонін крыло, а залацістаю хваляю спадаюць на белыя плечы.

У сэрцы негрыцянскага хлопчыка выспела мара: паехаць у Мінск, вывучыцца там на доктара, дасканала авалодаць роднаю моваю Алесі. У глыбіні сэрца нарадзілася яшчэ адно таемнае жаданне: калі стане доктарам, можа, Алеся пагодзіцца стварыць з ім сям'ю. Ён ведаў, што бацькаў знаёмы вучыўся ў Мінску і прывёз адтуль белую жонку-прыгажуню. У іх нарадзілася трое дзетак, скура якіх зусім не такая чорная, як у мясцовых дзяцей. Бацька Томаса працаваў у школе, выкладаў матэматыку ды фізіку. Сям'я жыла даволі бедна — шасцёра дзяцей. Томас прызнаўся бацькам, што вельмі хоча паехаць вучыцца ў Мінск. Жаданне гэтае ўхвалілі, пачалі збіраць грошы. Сабраць патрэбную суму дапамаглі дзядзькі — бацькавы браты.

І вось Томас у Мінску, студэнт падрыхтоўчага аддзялення медыцынскага ўніверсітэта. Выкладчыкі гавораць з ім па-англійску і па-руску, а ён адказвае па-беларуску. Дзіву даюцца: адкуль негр так хораша ведае беларускую мову? А Томас дзівіцца, што ў сталіцы Беларусі не гучыць родная мова.

— Да мяне ставяцца тут прыхільна, добразычліва. А вось між сабою беларусы часам бываюць агрэсіўныя. У нас людзі аднаго племені між сабою не варагуюць. Я гавару па-беларуску, бо па-руску яшчэ не навучыўся. Адзін прафесар сказаў, што я белая варона. Ну і няхай. Нават калі навучуся па-руску, буду гаварыць на мове маёй каханай Алесі, — закончыў аповед Томас.

Гэтую гісторыю мне расказаў даўні сябрук, былы інжынер Мінскага аўтазавода. Мяне вельмі ўразіў лёс негрыцянскага юнака. А яшчэ прыемна здзівіла, што сябрук, які раней казаў мне: «Лявоне, пішы па-руску. Ну хто цябе будзе чытаць?» — гаварыў са мною на роднай мове.

А прыгадаўся мне Томас, калі прачытаў у чэрвеньскім нумары часопіса «Маладосць» за мінулы год пра іспанскую студэнтку-прыгажуню Ангелу Эспінозу. Яна настолькі дасканала вывучыла нашу мову, што піша вершы па-беларуску, а ў кароткім інтэрв'ю сцвярджае: «Беларуская мова — меладычная, прыгожая ды багатая. Граматыка цяжкая, але вельмі цікавая. Яна ў мяне выклікае вельмі добрыя ўспаміны ды асацыяцыі. Гэта для мяне мова паэзіі і сяброў... Вельмі люблю размаўляць па-беларуску!»

Ангела Эспіноза — таксама белая варона, але мне хочацца назваць яе белай ластаўкай. Той самай, што на крылах прыносіць вясну.



Леанід ЛЕВАНОВІЧ

## Бывай, універсам «Звычайны»!

Неяк вяртаўся з Дома літаратара, сышоў з трамвая, перайшоў Лагойскі тракт. Па звычцы ногі самі павялі ў знаёмы ўніверсам, які меў назву «Звычайны». Падымаюся па прыступках — у вочы адразу кідаюцца буйныя літары : «Рублёвскій». Што за ліха? Няўжо я заблукаў? Я ж трыццаць гадоў тут жыву, некалі амаль штодня заходзіў у знаёмы ўніверсам, а цяпер яго няма… Адчыняю цяжкія дзверы, трапляю ў невялікую гандлёвую залу. Азіраюся — усё вакол перамянілася: злева быў кандытарскі аддзел з пячэннем, шакаладам, сокамі на разліў.

Перад шарэнгай касавых апаратаў стаяла высокая вастраносая жанчына ў акулярах, у фірмовай камізэльцы з бэйджыкам. Яна аглядвала залу, падыходзіла да касірак, новых, незнаёмых, нешта гаварыла.

— А дзе ж універсам «Звычайны»? — спытаў я ў кабеты.

— Спёкся ваш «Звычайны». Прагарэў. Цяпер тут новы гаспадар.

— І даўно ён гаспадарыць?

— Ды ўжо паўгода. Вы што, з неба звaліліся? — грэблiва зірнула на мяне кабета, адвярнулася, зноў выцягнула шыю, пільна аглядваючы кароткія, сумнаватыя чэргі пакупнікоў з лёгкімі кошыкамі.

Усё зразумела: я паўгода зімаваў у Амерыцы, за гэты час мацнейшы канкурэнт праглынуў слабейшага, гэтаксама як і ў Штатах, у цытадэлі капіталізму. Амар з'еў каракацыцу, — так некалі пісаў Драйзер. Заманулася пайсці адсюль. Штурхануў цяжкія дзверы, выйшаў на ганак, зноў азірнуўся, прачытаў новую назву гандлёвай кропкі, якая адразу зрабілася чужой — і кропка, і назва.

На дварэ пачаўся дождж, асцярожна, баючыся паслізнуцца, спусціўся па прыступках. Маланкай прамільгнуў успамін, як некалі прыемна ўразіў універсам «Звычайны».

Было тое напрыканцы 2000 года. Я вярнуўся з Амерыкі, дзе быў упершыню, гасцяваў там трыццаць тры дні, вялікае ўражанне зрабілі аграмадныя хмарачосы Нью-Ёрка, зіхатлівыя, шыкоўныя супермаркеты, імклівы хайвэй з бясконцым патокам машын, дзверы, якія ўсюды адчыняюцца самі. Дый як ты можаш іх адчыніць, калі коцiш каляску, напакаваную пакупкамі? З кошыкамі там не ходзяць, і прыступак перад магазінамі не ўбачыш.

І ўсё ж універсам «Звычайны», невялікі, цеснаваты, падаўся мне незвычайным. І вінаватыя ў гэтым... касіркі. Маладыя, прыгожыя дзяўчаты. Помню, падышоў да касы, за якой сядзела сінявокая, русявая дзяўчына з ямачкамі на шчоках. На бэйджыку прачытаў імя: Яніна. Выклаў пакупкі: «Нарачанскі» хлеб, ладны кус вясковага сала з ружаватымі пражылкамі, пакецік цукерак, нашых, куды смачнейшых за амерыканскія. Касірка спрытна палічыла, назвала суму, падняла на мяне сінія, чысцюткія, быццам вясновае неба, вочы. Я абалдзеў ад гэткай прыгажосці. Павіншаваў Яніну з Новым годам. Яна ўсміхнулася. О, якая то была ўсмешка!

— Дзякуй! Прыходзьце яшчэ. Не забывайце нас.

— Дзіва што! Хіба можна вас забыць? — міжволі вырвалася ў мяне.

Яніна засаромелася, нават пачырванела. І гэта мяне здзівіла, бо людзі зараз развучыліся чырванець. Я разумеў, што ззаду нецярплівая чарга і затрымлівацца ля касы не выпадае. Адышоўся, паглядзеў на Яніну здаля, на іншых касірак, яны таксама былі сімпатычныя. Выйшаў на вуліцу, прачытаў знаёмую назву ўніверсама і міжволі падумаў: «Не, няпраўда. Ты зусім не звычайны ўніверсам. Бо ў цябе касіркі самыя прыгожыя на свеце. У Штатах за месяц з гакам я бачыў усяго тры сімпатычныя жанчыны. І прадукты тут выдатныя. Смачнае сала. Смачны хлеб, шакалад, цукеркі. Дый гарэліца завода «Крышталь» чыстая, бы сляза.

З таго часу я стаў заўсёдным пакупніком універсама «Звычайны». Потым перад ім, як бяльмо на воку, вырас гандлёвы шапік. Хітры камерсант пабудаваў яго якраз на дарозе ад трамвая. Я заходзіў туды вельмі рэдка, калі дужа спяшаўся. Праз некалькі гадоў непадалёк адкрыўся ўніверсам «Витебск». Новы, больш прасторны, але я адразу незалюбіў яго. Хіба Віцебск не беларускі горад? Чаму ж тут назва не на роднай мове? А чаму гаспадарчы магазін з абодвух бакоў пазначаны: «Логойский тракт»? Куды глядзяць гарадскія ўлады на гэткае двухмоўе?

А ёсць жа ў нас удалыя назвы. Неяк патрапіў я ў кнігарню «Далеч», якая месціцца за аўтазаводам, на Партызанскім праспекце. Мноства кніг і мноства пакупнікоў. З прыемнасцю падпісаў сімпатычнай дзяўчыне свой раман «Щеглы» ў перакладзе на рускую мову. І гэта быў апошні асобнік. А кнігі «Ларыса, альбо Каханне аўтамабілістa» ўжо не было — раскупілі. Значыць, народ чытае. Народ любіць кнігарню з такой цудоўнай паэтычнай назвай — «Далеч»!

…Гады ішлі. Касіркі ўніверсама «Звычайны» памалу старэлі, набіралі вагу, але ўсё роўна заставаліся па-жаночы прывабнымі. Я ўжо ведаў, што ў Яніны два дарослыя сыны, неўзабаве старэйшы ажаніўся. Гады два таму пачуў ад яе, што стала бабуляй.

— Ніхто вам не паверыць. Вы такая маладая, прыгожая. Апошнім часам пастрайнелі. Якая ў вас дыета?

— А ніякай, — чароўна ўсміхнулася Яніна. — Скажу вам па-простаму: трэба меней жэрці. А яшчэ важна зразумець: вада — найлепшая яда.

Я быў цалкам згодны з Янінай. Дзе яна цяпер? Працуе недзе ў іншым месцы, а мо гадуе ўнука?..

Памалу крочыў дахаты. Злева нарэшце скончылася будаўніцтва высознага дома, сюды ўжо ўпліснуліся офісы розных фірм, на першым паверсе раскашаваў настырны «Макдоналдьс». Вышэй стракацелі англамоўныя назвы крам, фірм: «Віно энд Віно», «Бігс», «Велком». Паміж імі прытуліліся крама для дзетак «Буслік». Вялікія рознакаляровыя літары вылучаліся на шэрым фоне, радавалі вока.

Расці, буслік! Набірайся моцы. Хай пад тваімі белымі крыламі расквітнее Беларусь. Можа, праз нейкі час тут адкрыецца гандлёвы цэнтр «Звычайны». І ў гэтым не будзе нічога незвычайнага, бо сваё, роднае — яно і ёсць сваё. Яно самае дарагое.

## Маўклівы дыялог

Калі з вёскі прыязджаю ў горад, заўсёды багата клопату, таму даводзіцца спяшацца. У той дзень спяшаўся асабліва, бо на дварэ стаяў чэрвень — самы райлівы час для пчол. У горад прыехаў вельмі рана, мяркуючы па абедзе вярнуцца на пчальнік.

— Здароў, Кірэевіч! — здаля павітаўся сусед Іосіф, высокі, сутулы, вузкаплечы. Ён стаяў каля пад'езда, моўчкі абмінуць яго ніяк не выпадала.

Я падышоў бліжэй, парукаліся. Рука ў суседа была цвёрдая, далонь шурпатая, але халодная, і поціск слабы, асцярожны, нібы Іосіф баяўся зрабіць мне балюча.

— Сядайце. Пасядзімо. А то вы ўсё спяшаецеся. У нашым узросце ўжо няма куды... Як вам жывецца? Што пішаце? Як вашы пчолы? — Іосіф пільна зірнуў на мяне, калі апусціліся на лаву.

Пытанняў было шмат, і я зразумеў, што суседу вельмі хочацца пагаварыць: час ён мае, дый не бачыліся даўно. Некалі ён працаваў у друкарні імя Якуба Коласа, часам прыносіў новыя кнігі, аддаваў за пляшку віна. Выпіць ён любіў, часцяком перабіраў норму, трапляў у выцвярэзнік. У сям'і было дзве дачкі, Алена, жонка, таксама працавала ў друкарні. Дочкі паспяхова выйшлі замуж, Іосіф пасля пенсіі з'ехаў у вёску, купіў каня, развёў трусіную ферму. А потым зноў улёг у гарэлку.

Я коратка адказаў на суседавы пытанні, пацікавіўся, як жывецца яму.

— От, жыву, як гарох пры дарозе. Магло б і лепей быць. Ды што зробіш? Дажываю. Трусагадоўлю звёў пад нуль. А ў вас ёсць?

— Адна труска і шэсць малых...

У гэты час металічныя дзверы пад'езда расчыніліся, высунулася бабуля з кавенькай. Яна прыстояла каля нас, пазнала Іосіфа. Буркатлівым голасам кінула: «Дзень добры!» і пачыкільгала далей.

— Баба Рэня выйшла на праходку. Яна зробіць круг па двары і вернецца. А потым будзе хадзіць і зноў вяртацца. Пэўна, вы не ведаеце чаму? Пазней скажу. Заінтрыгую вас... Дык вы трусоў маеце. У мяне летась было штук сорак. Замудохалі саўсім. Травы накасі, хлеба дай, зерня пасып, вады налі. Дый клеткі трэба чысціць. І ўсё на адны рукі. Жонка тут, у горадзе, унука дагледае. А я ўсю восень трусоў калашмаціў. І, ведаеце, пад канец шкадаваць іх пачаў. — Іосіф зірнуў на мяне, мусіць, хацеў пераканацца, ці паверыў я. — Гадуеш, прывыкаеш да іх, а тады забіваць трэба. А гэта ж душа жывая... І мяса іхняе перастаў есці. Хоць і пішуць, і гавораць, што яно дыетычнае, карыснае. І мае сямейнікі дужа не кідаюцца. Маразілка яшчэ і зараз поўная трусяціны... Карацей, звёў трусоў пад нуль. Уздыхнуў з палёгкаю. Мне ж ужо скора семдзесят. Але яшчэ працую. Качагарам у кацельнай. Дзяжуру начамі. Біблію там чытаю. Неяк вычытаў, здаецца, у апостала Паўла, што чалавеку перад смерцю даецца тры секунды, каб усё сваё жыццё пpаглядзець. Як на кінаплёнцы. Ці можа быць такое, як вы думаеце? — зазірнуў сусед мне ў вочы.

— Мусіць, можа. Чалавечая думка мае вялікую хуткасць.

— Дык, значыцца, праўда. І я так думаю. Святы апостал маніць не будзе. Гэта людзі цяпер — спрэс манюкі... О, вось і баба Рэня. Глядзіце.

Старая моўчкі пратэпала міма нас, ускараскалася па прыступках, аддыхалася перад дзвярыма, дрыжачым пальцам націснула на кнопку-зорачку. Пачуўся металічны голас: «Наберите код». Бабуля трохі счакала, потым звыкла набрала чатыры лічбы — «Дверь открыта». Старая адчыніла дзверы, патрымала іх адчыненымі, нібы некага чакала, потым адпусціла... Пастаяла колькі хвілін. Старчы палец, скрыўлены цяжкаю працаю, пацягнуўся да дзвярэй. Яна паўтарыла гэтую працэдуру тры разы, потым пасунулася ў пад'езд.

— А цяпер слухайце пра сакрэт. У бабы Рэні быў сын, чарнобыльскі ліквідатар. Гады тры таму ён памёр. Мужык моцна выпіваў, таксама пайшоў у лепшы мір. Дачка жыве ў другім горадзе. Баба Рэня адна, ну, котка ёсць. Дык з ёй жа не пагаворыш. Котка адно мурлыкае. Калі ўстанавілі гэтыя дзверы, бабе Рэні падалося, што ёй адказвае сын. Вельмі падобны голас. Вось яна і ходзіць, набірае код... А цяпер я вас адпускаю, — падаў руку Іосіф. — Поспехаў ва ўсіх справах. Але не бярыце на пуп. Не надрывайцеся. У гаспадарцы ўсялякіх работ хапае.

Мы цёпла развіталіся. Я тады не мог і падумаць, што болей не пабачымся. Месяцы праз тры сутыкнуўся каля ліфта з Аленай. Ад яе дазнаўся, што Іосіф памёр на дзяжурстве, у качагарцы, ляжаў з Бібліяй у руках. Сказала Алена і пра бабу Рэню, якая з'ехала ў дом састарэлых. Нядаўна тэлефанавала, пахвалілася, што пазнаёмілася з сімпатычным дзедам, жыццё палепшала.

Мільганула думка: ці паспеў Іосіф за тры секунды акінуць поглядам усё сваё жыццё? Але пра гэта мы ніколі не дазнаемся.

# З пункту гледжання ката

**Дзіўная гісторыя здарылася на Палессі: з’явіўся кот Максім з роду Глінскіх-Папялінскіх і запатрабаваў ад палешукоў пасаду ваяводы…**
**Іван Штэйнер — вядомы беларускі літаратуразнаўца, у якім нечакана прачнуўся талент празаіка і драматурга, — стварыў гэты вобраз спачатку ў вадэвілі «Кот на лаўрах», паспяхова пастаўленым на сцэне Гомельскага абласнога драматычнага тэатра (дарэчы, як і іншыя п’есы аўтара), і ў аповесці «Кот-ваявода: смяхотная штука», напісанай у класічнай традыцыі народнай смехавой культуры, якая апошні час нагадвае пра сябе ў многіх творах.**

На парозе трэцяга тысячагоддзя, у эпоху кардынальных змен, сучасны літаратурны працэс знаходзіцца пад знакам пераадолення трывожных эсхаталагічных настрояў і адначасова інтэлектуальнага пошуку месца ў інфармацыйным грамадстве. Паводле слоў аўтара аповесці, «чалавек зусім не змяніўся за апошнія дзве тысячы гадоў, як і не змяніліся ягоныя жаданні і жарсці, мары аб шчасці і радасці, надзеі на лепшую долю, дзеля здабыцця якіх ён адважваецца на якую хочаш авантуру». У гэтым сэнсе Іван Штэйнер далучыўся да стагадовай даўнасці радкоў верша Цёткі:

*Дзевятнасце сотняў,*
*Як Езус радзіўся,*
*І за гэту пору*
*Мужык не змяніўся…*

Сказанае пацвярджаецца трапнымі выслоўямі вялікіх філосафаў (найперш — славутага Эразма Ратэрдамскага і яго «Пахвалы дурасці»), якіх шчодра цытуе Іван Штэйнер, прыхільнік ідэі вяртання свету да аптымістычнай філасофіі свабоды.

Выключную ролю ў развіцці сусветнай цывілізацыі, як лічыць Лідар аператыўна створанай палешукамі партыі Мур-Мур, іграе адметная істота, якая знаходзіцца ў цэнтры апісаных падзей: «на вуліцах і плошчах з велізарных бігбордаў усміхаўся кот у адзенні патрыцыя з кубкам у руках і вянком з лаўравых лісточкамі на галаве», «менавіта кот быў сімвалам свабоды і незалежнасці за апошнія пяць тысяч гадоў...». Славутае «Я гуляю сам па сваіх сцяжынках», на думку аўтара, можа назаўсёды стаць «сімвалам пошукаў чалавекам кацінага шчасця», ці, як казаў Нобелеўскі лаўрэат Пётр Капіца, «сабраць статак баранаў лёгка, цяжка сабраць кашэчы статак».

Да нечакана ўзніклай гульні ахвотна падключылася ўся грамадскасць палескага рэгіёна, «пацешна пераймаючы манеры старажытных рытараў», як выказваўся ў свой час аўтар «Пахвалы дурасці». Тут жа з’явіліся і аматары «разглагольствовать з кафедры», сярод якіх вылучаюцца Сакратар, Старшыня, Лідар, Сваха, Філосаф, асобна нагадваюць пра сябе Натарыус і Рэгістратар.

Згадваецца багатая гісторыя кашэчага роду — ад часоў дыназаўраў і мамантаў да Ката Баюна, які сваім мурканнем закалыхваў дзяцей, Ката Мура з твора Гофмана, што ахвотна дзяліўся поглядамі на жыццё, да вучонага ката з паэмы Пушкіна, які «идет направо — песнь заводит, налево — сказку говорит»... Дарэчы, Гофман з яго дзіўнай мастацкай сістэмай, у якой змешвалася рэальнае і фантастычнае, вясёлае і трагічнае, а ўсё разам успрымалася як мудрагелістая гульня і свавольле аўтара, вымушаны быў напісаць прадмову да свайго рамана, бо выдавец збянтэжыўся, калі даведаўся, «што сачыніцель рукапісу — кот па імені Мур і што ў ім ён выкладае свае погляды на жыццё, і што сярод яго аўтараў яшчэ не бывала катоў».



*«Гофман»: Э. Т. А. Гофман і яго кот Мур.*

І. Штэйнер, у сваю чаргу, палічыў: «прадмовы пісаць не трэба»: «Няма такога неразумнага пісьменніка, які не знайшоў бы падобнага да сябе чытача». Чым здзівіць чытача? Усё ў свеце даўным-даўно сказана.



*«Пушкін»: Аляксандр Пушкін і яго вучоны кот.*

Пра гэта, цытуе І. Штэйнер класікаў, казаў мудры Эклезіяст, а пазней — О. Уайльд, А. Жыд, С. Лем, І. Бродскі. Сваё месца ў чарадзе славутых папярэднікаў аўтар аповесці «Кот-ваявода» ацэньвае самакрытычна: «Для гэтага опуса такой падпорай становіцца векавая мудрасць людства, што жыло шмат гадоў таму і высновы якога надзвычай актуальныя для сённяшняга дня... Хто бачыць цяперашні дзень, той бачыў усё, што існавала тысячагоддзі, і тое, што будзе існаваць вечнасць. І нічым яно не вылучаецца і не адрозніваецца, можа толькі дэкарацыямі да адзінага дзейства». Векавая мудрасць гучыць у словах філосафаў і пісьменнікаў: «Пішам дзеля ісціны», «Хоць падсвядома дамінуе ўсё ж такі жаданне дагадзіць натоўпу», «Ды і вялікія не грэбавалі дробязямі і жартамі».

Гісторыя, апісаная І. Штэйнерам, паўтараецца хутчэй у выглядзе камедыі, а не трагедыі. Тут вельмі дарэчы афарызм Эразма Ратэрдамскага: «Толькі дзякуючы глупству жыццё бывае цярпімым».

Двум галоўным героям твора — Зяцю 1 і Зяцю 2 — выпала доля апынуцца ў цэнтры ўвагі суседзяў, родзічаў і грамадскасці ў шырокім разуменні гэтага слова. Іх нечакана для сябе і вяскоўцаў паклікалі на публічнае агалошванне тастаманту іх цешчы Адэлі Казіміраўны Збароўскай. Добра ведаючы сваю цешчу, зяці пацяшаліся, уяўляючы, якая спадчына іх чакае: «Што там прымаць? Хату, якая стаіць толькі таму, што не ведае, на які бок упасці?»

Тыя ж смешачкі гучалі з іх вуснаў і ў момант чытання Натарыусам тастаманту, ажно пакуль не прагучаў пералік усёй нерухомасці, якую цешча дарue сваёй сяброўцы Марусі, унучкам на вучобу за мяжой і на пасаг... Атрымаў сваю долю і кот Максім, «які ў адрозненне ад усіх прысутных, што сквапна ўслухоўваюцца ў гэтыя словы, любіў мяне проста так, без усялякай выгоды. Саграваў мяне на печы ад добрага сэрца, зусім не думаючы пра грошы, вілы і дачы з відам на кракадзілаў […] Таму завяшчаю вылучыць неабходную суму для набыцця сучаснай ветэрынарнай клінікі ў абласным цэнтры, каб даглядаць ката на высокім узроўні».

Зяць 1 і Зяць 2, ачомаўшыся, выявілі цуды вынаходлівасці, каб выкарыстаць выданыя ім «па дзесяць тысяч фунтаў на дробныя расходы» і «далей не выпрабоўваць долю і аддаць на волю яго вялікасці выпадку — куды крывая вывядзе». Гатовыя «ў д’ябла папрасіць дапамогі» і «душу аддаць, нават не задумваючыся», шукальнікі шчасця ўзнялі ў сваёй памяці ўсе запасы ведаў. Аўтар ахвотна дапамагае ім перакласці лацінскія афарызмы на родную мову: «Невядомыя няшчасці вельмі трывожаць», «Асёл аб асла трэцца», «Філасофія — настаўніца жыцця», «Хай згіне свет, але пераможа правасуддзе», «Ты сустракаеш Сцылу, імкнучыся пазбегнуць Харыбды», «Вучоным і паэтам дазволена ўсё», «Цнатлівая тая, якой ніхто не дамагаўся», «Перш за ўсё трэба шукаць грошы, потым мараль», «Імкніся захаваць сілу духу і ў найскладанейшых абставінах», «Вялікая розніца не хацець ці не ўмець саграшыць», «Няма нічога недаступнага для смяротных».

> *Гісторыя, апісаная І. Штэйнерам, паўтараецца хутчэй у выглядзе камедыі, а не трагедыі. Тут вельмі дарэчы афарызм Эразма Ратэрдамскага: «Толькі дзякуючы глупству жыццё бывае цярпімым».*

Народная смехавая культура беларусаў, высокую цану якой добра ведае І. Штэйнер, выразна сведчыць пра неабходнасць пільна ўглядзецца ў глыбіні нашага нацыянальнага характару. У аповесці «Кот-ваявода» аўтар свядома завастрыў увагу на амбівалентнай прыродзе беларускага смеху, найлепш выяўленага ў выказванні «і смех, і слёзы». Смех і слёзы як рэфлексія на зямное быццё, у якім вялікае месца займае не толькі камічнае, але і трагічнае, парадаксальнае, абсурднае.

**Міхась ТЫЧЫНА**

***Новы радок***

# Агульнае — непаўторнае

Ізноў перад намі кнігі маладых паэтэс: «Сусвет вымяраю табой» Алены Бабурэвіч (серыя «Мінскія маладыя галасы») і «Звычайнае шчасце» Аксаны Ярашонак-Камінскай («Маладая паэзія Беларусі»). Абодва зборнікі беларускамоўныя. Абедзве аўтаркі скончылі БДПУ імя Максіма Танка, за плячыма — праца ў школе. Гэтаксама іх яднае пошук свайго голасу, жаданне «здзівіць» свет, выказаць асабістыя адчуванні «да донца».

«Природа щедрая, заботливая мать, / Умеет каждому талант особый дать», — адзначаў тэарэтык вершаскладання Буало. Але мы не будзем мераць сілу паэтычнага даравання — нас цікавіць непаўторнасць і шчырасць, праўдзівасць і натуральнасць жаночага паэтычнага голасу.

Па-цвятаеўску моцна і пранікнёна, даверліва і шчымліва аж да адчування фізічнага болю прамаўляе Алена Бабурэвіч — пра свайго «візаві», любага, каханага, суджанага. «Ты не побач прайшоў…» Паэтка прыгадвае ўсё, што звязана з ім, а значыць, з самым дарагім і дрыготкім пачуццём.

*Скрозь*
*Сspleценне ўстрывожаных рук*
*У прымятай вясенняй траве*
*І сэрца адчайны стук…*
*Скрозь…*

Цэлыя нізкі вершаў прысвячае аўтарка свайму каханаму («Я ведаю цябе на памяць», «Ты вернешся», «Рэўнасць», «Каханне», «На ранні голуб пастукаў у вокны»). У апошнім са згаданых вершаў аўтарка дзякуе «за магутнасць нястомных крылаў, / за магчымасць лятаць у аблоках…», прызнаючыся: «Я ўдзячна Богу за тое, / Што магу прысвячаць табе вершы».

Адкуль столькі тугі ў маладых?.. Але «прарываецца» шчырае пачуццё, і разумееш: яны любяць свет, у якім існуюць. Яны ахопленыя прагай жыццесцвярджальнага пачуцця, жыццядайнай сілы, жаданнем выпраменьваць шчасце і самім быць шчаслівымі:

*Сваім жыццём зрабіце свет прыгожым,*
*Заўсёды верце — шчасце не міне.*
*Жывіце — памажы Вам Божа! —*
*Са мной ці без мяне.*

Менш патэтычна, але і не зашорана, без асаблівай афектацыі, спавядаецца ў зборніку «Звычайнае шчасце» Аксана Ярашонак-Камінская. Яна набліжаецца да народнага светаўспрымання, да прастасці, але не спрошчанасці, разумеючы, што не так лёгка вышыць свой адметны, непаўторны ўзор на канве ў вялікім і рознакаляровым садзе — «в садоводстве поэзии — бабы капризной», як казаў Маякоўскі.

Да першапачатковага, аўтабіяграфічнага перажывання ў адцягненых радках дайсці бывае цяжка, і сам аўтар перадае не сябе — а свет, і выяўляе ўжо сябе ў свеце.

Зборнік А. Ярашонак-Камінскай сведчыць пра тое, што выхаванне высокай паэзіяй у нашых маладых аўтараў ёсць. Найлепшыя вершы паэтэсы прысвечаны Алесю Пісьмянкову («У вянок памяці»). Іх шмат: з крыжамі і кветкамі, дажджамі і «буслямі над Бесяддзю». Як і вершаў пра час «некамп’ютарных гульняў» і «нумароў немабільных», пра недахоп «папяровых пасланняў». Лірыку юных аўтарак можна разумець не толькі як споведзь душы, але і як арганізацыю паэзіяй свайго жыцця.

**Уладзімір СВАТ**

# Франкенштэйн у Вавілонскай вежы



Малюнак Алесі Ісы.

**Васіль Гігевіч — фантаст, пісьменнік гуманістычнай традыцыі. Трыццаць гадоў таму ён задаваў тыя ж філасофскія пытанні, на якія шукае адказы і цяпер: хто мы (народ і чалавецтва ў цэлым)? Куды ідзём? Для чаго жывём? Глабальныя пытанні патрабуюць глабальнага рашэння.**

## УТОПІЯ І ЯЕ СЯСТРА

Пісьменніку належаць некалькі твораў антыўтапічнага і ўтапічнага характару: «Карабель» (антыўтопія, класічная ў структурных і сюжэтных адносінах), «Пабакі», «Страчанае шчасце», «Кентаўры» і «Атамізацыя» (надрукавана ў першым нумары часопіса «Полымя» за 2015 год). Абодва жанры — разнавіднасці сацыяльнай фантастыкі.

Некалі галоўны герой «Карабля» (1989) пакутаваў без мэты жыцця, без веры — у «Атамізацыі» (2015) аўтар адышоў ад праблемы пошукаў бога. У новай аповесці-казцы пераплятаюцца дзве тэматычныя лініі: утапічная (тэма вёскі) і антыўтапічная (тэма цывілізацыі будучыні, іншапланетнай цывілізацыі). Супастаўленне гэтых светаў і стварае канфлікт твора.

Антыўтопія мае ў падкладцы ўтопію — схаваны ідэал, на які аўтар нацэльвае чытача. Дзеля яго зазвычай і ствараецца сама антыўтопія, твор культураахоўны, нацэлены супраць змен аксіялагічных арыенціраў, супраць этычных парушэнняў і антыэстэтычных праяў сучаснага культурнага жыцця.

> *У Васіля Гігевіча вясковая ідылія з'яўляецца не толькі сінонімам даіндустрыяльнага жыцця — гэта вобраз шчырасці, душэўнасці, вобраз беларускай традыцыі — ядра культуры, якімі з'яўляецца мова, народная творчасць, літаратура.*

Але што ўтопія у Гігевіча?

Яна ўвасабляецца ў тэкстах, яна асуджаная на віртуальнае жыццё — у памяці, на старонках кніг. У ідылічным свеце мінулага людзі сумленныя і душэўныя, жанчыны ласкавыя, травы высокія, неба чыстае. Там не існуе сумных пытанняў: чаму і без таго кароткае жыццё людзі марнуюць на гонку за хімерамі і міражамі? «Чаму людзі сталі такімі разгубленымі? Чаму людзі людзям верыць перастаюць? Чаму ж увесь час у бедах сваіх мы шукаем вінаватых — і ніяк не можам знайсці іх?.. Чаму радасць знікае ў нашых душах?..»

Філасофаў даўно турбуе пытанне: «Чаму культура не робіць чалавека шчаслівым?» Падсвядома мы перакананыя, што «чалавек народжаны для шчасця, як птушка — для палёту». А можа, як сказана ў кнізе Іова, «…чалавек нараджаецца на пакуты, як іскры, каб узняцца ўгору»? У пошуках прычыны («чаму ўсё не так») мудрацы заўважаюць маштабныя змены і найперш — у аксіялагічнай сферы.

В. Гігевіч, безумоўна, валодае пачуццём да цывілізацыйных зрухаў. Нам застаецца толькі рэканструяваць тое, што закладзена ў прытчавай, «эзопавай» форме яго фантастычнай казкі. Найперш прааналізуем назву.

«Атамізацыя» — гэта сінонім распаду, распыленне, знішчэнне. Калі мець на ўвазе соцыум, атамізацыя — распад грамадства на асобныя адзінкі, разбурэнне традыцыйных сувязей між людзьмі (сямейных, родавых, сяброўскіх). У перакладзе на культуралагічную мову гэта змены традыцыйнага грамадства і фарміраванне посттрадыцыйнага. Эвалюцыйны зрух такога тыпу пачаў адбывацца найперш у заходніх грамадствах, развітых індустрыяльных і постіндустрыяльных.

Але ў пісьменніка — сваё бачанне сітуацыі, уласны «слоўнік». Таму ў аповесці «атамізацыя» азначае яшчэ і разбурэнне каштоўнасцей — традыцыйнай маралі, чалавекалюбства. Такое разуменне не супярэчыць навуковым канцэпцыям аб мадэрнізацыі традыцыйных грамадстваў: сапраўды, чым больш цывілізаваная краіна, тым мацней размываюцца традыцыйныя каштоўнасці, этнічная спецыфіка, слабеюць сацыяльныя сувязі (роднасныя і міжпакаленныя).

## ЗВАРОТ ДА КЛАСІКІ

Падзеі казкі разгортваюцца на фоне класічнай літаратуры: лірычны герой Базыль, як некалі Адысей, выпраўляецца ў рызыкоўнае падарожжа (гумарыстычная трактоўка Адысеі зніжае пафас). Трэба заўважыць — і гэта істотна, — што аповед вядзецца ад імя героя і з яго пункту гледжання ацэньваюцца падзеі. Гумар, іронія і самаіронія Базыля даюць стэрэаскапічны позірк на многія звыклыя і нязвыклыя сітуацыі.

…Ён згадвае радкі Багдановіча пра родны край, хэмінгуэеўскі сюжэт — сімвалічную гісторыю — Урабарос, вечны паўтор, зачараванае кола. Бачыцца герою самотны стары, які імкнецца злавіць вялікую рыбіну, але тая не даецца, супраціўляецца, як само жыццё. І калі акрываўленымі рукамі ён выцягвае на бераг рыбіну, — калі чалавек на схіле жыцця быццам ухапіў сэнс жыцця! — ад жаданай здабычы застаецца адзін шкілет.

Пазнавальныя сюжэты і цытаты, узятыя з творчасці вядомых пісьменнікаў, а таксама вясковыя песні і прыпеўкі, успаміны і мары пра просты побыт сімвалізуюць тонкую нітку традыцыі. У аповесці В. Гігевіча вясковая ідылія — не толькі сінонім даіндустрыяльнага жыцця — гэта вобраз шчырасці, душэўнасці, вобраз беларускай традыцыі — ядра культуры, якімі з'яўляецца мова, народная творчасць, літаратура.

А што ўяўляе сабой контртрадыцыя?

Сапернікамі ўсяго чалавечнага ў аповесці выступаюць жыхары планеты Дзэты. Гэтыя зялёныя гуманоіды — абагульнены гратэскны партрэт… не іншапланецян, а зямлян будучыні.

Мова і звычаі — тое, што так лёгка згубіць і так цяжка аднавіць, — вось галоўная трывога аўтара. І няважна, што пры гэтым ён знаходзіць, так бы мовіць, фантастычныя аргументы: напрыклад, герой апелюе да магутнасці слова, якое ўплывае на генетычны код.

## МІФ?..

Яшчэ адна ключавая ідэя — думка галоўнага героя пра тое, што Зямля — жывы арганізм. На гэты міф у «Атамізацыі» накладваецца міф пра сапсаванасць свету.

Паводле цыклічных міфалагічных канцэпцый гісторыі, свет перыядычна старэе, губляе сілу і гармонію. Свет мае патрэбу ў выратаванні і адраджэнні. Звычайна яго адраджэнне пачынаецца з пакарання свяшчэннай асобы — цара альбо правадыра (персаніфікуе не толькі царства, але і ўсю прыроду). Адраджэнню свету можа папярэднічаць глабальная катастрофа — напрыклад, сусветны патоп ці пажар. Новае, посткатастрафічнае чалавецтва павінна стаць лепшым, а свет знаходзіць страчаную гармонію. Так мысленне старажытных абыгрывала ідэю ахвярапрынашэння.

> *Антыўтопія мае ў падкладцы ўтопію — схаваны ідэал, на які аўтар нацэльвае чытача. Дзеля яго зазвычай і ствараецца сама антыўтопія, твор культураахоўны, нацэлены супраць змен аксіялагічных арыенціраў, супраць этычных парушэнняў і антыэстэтычных праяў сучаснага культурнага жыцця.*

Такая ж думка — пра дэградацыю свету і чалавека — ляжыць у аснове многіх апакаліпсісаў, якія абавязкова апісваюць усемагчымыя катастрофы і беды, што абрынаюцца на людзей за іх бязвер'е і амаральнасць. Мэта апакаліпсісаў — узвядзенне кары на людзей. У наш час, калі рэлігія не мае такой сілы ўздзеяння, як некалі, апакаліпсісы «муціруюць»: пераходзяць у фантастычныя трылеры і антыўтопіі, Нью-Эйдж, паранавуку і сучасныя міфы.

Экскурс у міфалогію спатрэбіўся нам для таго, каб канстатаваць існаванне апакаліптычнага сюжэта ў аповесці В. Гігевіча. Зямля ў «Атамізацыі» жывая, яна «робіць» землятрусы, цунамі, тайфуны, каб скіраваць на шлях праўдзівы залішне гордых чалавечых сыноў, у якіх «штосьці выветрылася з душ».

Пра якія грахі ідзе гаворка? Гаворка ідзе пра гібрыс (гардыню), паняцце са старажытнагрэчаскага лексікона. Тут гібрыс выяўляецца ў тым, што чалавек развіў свае веды і ўменні настолькі, што пачаў умешвацца ў прыроду. Непрадказальныя вынікі палохаюць, аўтар імкнецца азначыць вектар развіцця цывілізацыі: як будзе там, за межамі гісторыі, дзе чалавек стане ці прыдаткам машыны, ці ўвогуле знікне.

## ДЗЭТА-ПЕЙЗАЖЫ

Для мастацкага асэнсавання магчымай будучыні фантаст стварыў свет планеты Дзэта. У ім няма жывёл, усяго, што шкодна гуманоідам, што ім непатрэбна. Фактычна знішчаныя архітэктурныя збудаванні (засталіся толькі піраміды), сухое паветра пахне хлоркай, ежа — незразумелае месіва, цывілізацыя базіруецца на грашовым абароце, і самі гуманістычныя каштоўнасці цалкам залежаць ад грошай. Дзэта-цывілізацыя скрозь прагматычная, усё тут удасканалена да мяжы. Функцыянаванне дзяржаўнай сістэмы аптымізаванае, бо ёсць глабальная камп'ютарная сетка.

Другі этап Дзэта-цывілізацыі: з дапамогай чыпаў усё гуманоіднае «чалавецтва» аб'ядналася ў адну інфармацыйную сетку. У выніку стаў непатрэбны доўгі працэс набыцця ведаў (цяпер іх можна здабыць у агульнапланетным камп'ютары), адменены грошы. У гэтым антыўтапічным грамадстве ўсіх, хто не дазваляе ўжывіць сабе чып — так званых «натуралаў», — знішчаюць, «калёным жалезам выпальваюць». Кантроль над нараджальнасцю набывае татальны размах, дзеці на свет з'яўляюцца толькі з прабірак, дакладней, з колбаў на аснове генетычных тэхналогій.

Адзінае, што аб'ядноўвае гуманоідаў, — відовішчы, масавая культура і крэслы-ложкі, якія даюць фізічную насалоду. На Дзэце распаўсюджаная філасофія адчаю: лічыцца, што ўсе формы жыцця на субатамным узроўні — усяго толькі згустак энергетычных палёў, а значыць, усё жыццё — сон, пагоня за міражамі. Сам сабою напрошваецца вынік — у жыцця няма сэнсу. Адсутнічае міфарэлігійная трактоўка быцця і небыцця, а разам з ёй знікае этычны базіс…

## ГОРА ПРАЗ РОЗУМ

Аўтарскі прызыў-лейтматыў: «…скарыся, скарыся, горды чалавек, перад тым непазнаным, што цябе акружае!» У аповесці В. Гігевіча фігуруе ўжо звыклае па іншых творах фантаста супрацьпастаўленне «культура — прырода», «цывілізацыя і рацыянальнасць — прырода пачуццё».

Пісьменнік выказвае насцярожанасць: глабалізацыя можа прывесці да гіперрацыянальнасці і дэгуманізацыі чалавека. Ад Франкенштэйна да Шарыкава, усе істоты, створаныя хірургічным ці механічным шляхам, увасабляюць вынікі гібрысу — багаборчай гардыні чалавека. Таму і сёння зрухі ў сферы генетыкі суправаджаюцца трывогай грамадскасці.

І зноў пытанне: ці не перабольшаны маштаб рацыянальнасці чалавека? Ці ёсць увогуле прыкметы залішняга рацыяналізму, адсутнасці ў моладзі пачуццяў?

У чым прычына пісьменніцкага скепсісу датычна ведаў, рацыянальнасці і навукі? Аўтар акцэнтуе ўвагу на тым, што пазнанне часта выходзіць за этычныя межы, папярэджвае, што, імкнучыся падпарадкаваць прыроду, не трэба забывацца на базавую аксіёму: чалавек не павінен быць сродкам, «жывым рэчывам». Для ілюстрацыі гэтай ідэі паказаныя замалёўкі з Дзэты: інкубатары для гуманоідаў, ранняя прафесіянальная спецыялізацыя дзяцей, выбракоўка «экзэмпляраў» з мутацыямі і выкарыстанне ў медыцыне донарскіх клетак і органаў.

Зялёны гуманоід, антаганіст галоўнага героя заяўляе: «Усё ў свеце і Сусвеце толькі для патрэб гуманоіда». Грэх бесчалавечнасці апісаны ў аповесці «Атамізацыя». Грэх, за якім маячыць разбурэнне чарговай Вавілонскай вежы.

**Алена СВЕЧНІКАВА**

Заканчэнне. Пачатак на стар. 1.

# Агінскі: вядомы і невядомы

Асобнай увагі заслугоўваюць і людзі, якія акружалі Агінскага. Так, яго настаўнікам музыкі быў 16-гадовы юнак Восіп Казлоўскі. Пройдзе час, і ён напіша гімн Расійскай імперыі «Гром победы, раздавайся», стане фактычна самым значным кампазітарам краіны. А сакратар Міхала Клеафаса Леанард Ходзька выдасць у Парыжы 125 тамоў дакументаў па гісторыі Рэчы Паспалітай, будзе ліставацца з Віктарам Гюго і Жорж Санд, стане сапраўдным летапісцам жыцця палякаў у французскай эміграцыі і збярэ выдатную калекцыю прадметаў даўніны. Зборы Ходзькі пасля яго смерці сталі асновай для стварэння музея ў швейцарскім Рэперсвілі, і, па здагадках краязнаўцаў, там можа знайсціся нямала значных прадметаў, што маюць беларускае паходжанне.

Адметнае і асабістае жыццё Міхала Клеафаса. З першай жонкай Ізабэлай Ласоцкай адносіны не складваліся, і касцёл… даў дазвол на развод. Другой жонкай кампазітара стала 25-гадовая прыгажуня Марыя дэ Нэры. З ёй у Міхала Клеафаса нарадзілася чацвёра дзяцей. Цікава, што старэйшая дачка Міхала Клеафаса і Марыі Амелія таксама стала выдатным кампазітарам і паэтэсай.

Сапраўды, пра адметныя і захапляльныя факты з жыцця Міхала Клеафаса Агінскага можна разважаць, нават спрачацца, амаль бясконца. Менавіта такой пляцоўкай для абмеркавання новых адкрыццяў, дэманстрацыі знаходак і выказвання прапаноў па далейшым вывучэнні спадчыны знакамітага роду стала навукова-практычная канферэнцыя, што не так даўно прайшла ў Маладзечне. Форум з назвай «Культурная спадчына роду Агінскіх і яе значэнне для сучаснага развіцця грамадства» сабраў даследчыкаў з Беларусі, Літвы, Польшчы, Расіі, Украіны. У якасці арганізатараў канферэнцыі выступілі Міністэрства культуры Рэспублікі Беларусь, Беларускі дзяржаўны ўніверсітэт культуры і мастацтваў, Маладзечанскі дзяржаўны музычны каледж імя М. К. Агінскага, мясцовы дабрачынны фонд «Спадчына Міхала Клеафаса Агінскага» пры падтрымцы Мінскага абласнога выканаўчага камітэта, Маладзечанскага райвыканкама і Беларускага фонду культуры.

Можна сцвярджаць, што сустрэча ўдзельнікаў канферэнцыі з пастаноўкай Міхала Клеафаса Агінскага пачалася яшчэ да афіцыйнага адкрыцця. Так, у холе музычнага каледжа імя М. К. Агінскага была прадстаўленая выстаўка работ вядомых мастакоў і навучэнцаў каледжа. Гэта партрэты вядомага кампазітара і яго сваякоў, а таксама пейзажы родных мясцін. Падчас пленарнага пасяджэння ў межах канферэнцыі прагучалі прывітальныя словы ад міністра культуры Рэспублікі Беларусь Барыса Святлова, Надзвычайнага і Паўнамоцнага Пасла Літвы ў Беларусі Эвалдаса Ігнатавічуса, Надзвычайнага і Паўнамоцнага Пасла Беларусі ў Францыі, пастаяннага прадстаўніка нашай краіны пры ЮНЕСКА Паўла Латушкі, рэктара БДУКіМ Юрыя Бондара, старшыні Мінаблвыканкама Сямёна Шапіры. Адметна, што спадчына роду Агінскіх сапраўды аб'ядноўвае многія народы і пакаленні. Так, каб прывітаць сваіх калег і сяброў, падзяліцца новымі навуковымі набыткамі і адкрыццямі, у Маладзечна завіталі аматары Агінскі з розных куткоў Беларусі і замежжа.



*Знаёмства з інфармацыйнымі стэндамі «Міхал Клеафас Агінскі: палітык, дыпламат, міністр».*

Вітас Руткаўскас, дырэктар Рэтаўскага музея гісторыі і культуры Агінскіх (Літва), і Юльян Бельскі, сябар апякунскага савета мясцовага дабрачыннага фонду «Спадчына Міхала Клеафаса Агінскага» (Расія), распавялі, што менавіта дух Агінскага стаў той пуцяводнай зоркай, якая прывяла іх у нашу краіну і дазволіла палюбіць мясціны, звязаныя з жыццём гэтага выдатнага кампазітара і грамадскага дзеяча.

Музычная спадчына Міхала Клеафаса Агінскага запатрабаваная ў нашай краіне і сёння. У выдавецтве «Каўчэг» выйшлі зборнікі паланэзаў, рамансаў на дысках і ў выглядзе нотных партытур. Яны карыстаюцца досыць вялікай папулярнасцю і запатрабаваныя як навукоўцамі, выкладчыкамі, так і студэнтамі. Кандыдат мастацтвазнаўства, выкладчык Беларускай дзяржаўнай акадэміі музыкі Святлана Немагай у сваім дакладзе распавяла:

— Цягам апошняга часу цікавасць да спадчыны Міхала Клеафаса Агінскага ўзрасла. Але яго творы, па сутнасці, ніколі не знікалі са сцэн і музычных залаў. Многія даследаванні, адкрыцці патрабуюць не толькі вывучэння асобных граняў постаці Міхала Клеафаса, але асэнсавання значэння яго асобы ў цэлым. Варта знайсці адказ на пытанні: кім быў ён пры жыцці і кім з'яўляецца для нас сёння? У чым феномен папулярнасці Агінскага? Дэ юрэ Міхал Клеафас у свой час быў паслом, дзяржаўным дзеячам, але дэ факта грамадства ўжо тады яго ўспрымала як аўтара паўстанцкіх маршаў, меланхалічных паланэзаў, што вызначылі музычную аўру ўсёй эпохі і сталіся сімваламі перадрамантызму ў музыцы. Менавіта кампазітарская спадчына з'яўляецца тым магнітам, што прыцягвае ўвагу навукоўцаў-музыказнаўцаў, кампазітараў і саміх выканаўцаў.

Але ці была самому Агінскаму прыемная такая ўвага? Ці падабалася яму тое, што ў ім бачылі перадусім музыканта? На гэтае пытанне Святлана Немагай адказала так:

— Думаю, што не заўжды. У канцы XVIII — пачатку XIX стагоддзя музыкантамі і кампазітарамі былі, як правіла, людзі ніжэйшага сацыяльнага статусу. Ды і ў жыцці самога Агінскага гэта выклікала пэўную супярэчнасць. Прыкладаючы асноўныя намаганні ў грамадска-палітычнай сферы, ён не надаваў шмат увагі музыцы. Больш за тое, у той час аматарскае захапленне кампазітарствам было характэрнай рысай арыстакратычнай часткі грамадства. Але ўнікальным падаецца той факт, што нават тэхнічная недасканаласць музычных п'ес Міхала Клеафаса, адсутнасць пэўнай кампазітарскай рукі не перашкодзілі яго творчасці адыграць прыкметную ролю ў гісторыі развіцця жанраў паланэза, марша, мазуркі і гісторыі Рэчы Паспалітай у цэлым. Нават Гофман у рэцэнзіі ў адной з берлінскіх газет высока ацэньваў сам музычны матэрыял твораў Агінскага, яго рэльефнасць, але толькі тады, калі слухаў іх у пералажэнні для аркестра. І разам з тым вельмі крытычна адгукаўся пра арыгінальныя версіі паланэзаў, бо, па яго меркаванні, гэта былі толькі пералажэнні для фартэпіяна.



*Абмеркаванне ў кулуарах міжнароднага форуму.*



*Экскурсію ў Музеі-сядзібе М. К. Агінскага ў Залессі вядзе навуковы супрацоўнік Таццяна Кляшчонак.*

Па меркаванні прафесара Віктара Скорабагатава, даследчыкам варта звярнуць увагу на архівы ў рукапісным фондзе бібліятэкі Маскоўскай кансерваторыі імя Чайкоўскага. Менавіта там захоўваюцца падрабязна не вывучаныя творы Агінскага для скрыпкі, фартэпіяна і голасу. І ў цэлым, даследчык мяркуе, што Міхал Клеафас больш любіў скрыпку, але асабліва вялікую папулярнасць здабылі кампазіцыі для фартэпіяна. А экс-старшыня Нацыянальнай камісіі Беларусі па справах ЮНЕСКА Уладзімір Шчасны параіў звярнуць увагу на неразабраныя і не перакладзеныя архіў Агінскага, які захоўваецца ў Расійскай дзяржаўнай бібліятэцы. Адметна, што гэтымі дакументамі могуць карыстацца ўсе. Перадача электроннай версіі архіва нашай краіне адбылася пры падтрымцы ЮНЕСКА.

Доктар філалагічных навук, прафесар Адам Мальдзіс выказаў прапанову заснаваць прэмію імя Міхала Клеафаса Агінскага і ўзнагароджваць ёй дзеячаў культуры, навукі і мастацтва, якія зрабілі найбольшы ўнёсак у даследаванне і прапаганду спадчыны выдатнага кампазітара. Па меркаванні Адама Восіпавіча, узнагароду ўжо можна ўручыць дырэктару і галоўнаму рэдактару выдавецтва «Чатыры чвэрці» Ліліяне Анцух, даследчыцы Святлане Немагай і навуковаму супрацоўніку Музея-сядзібы М. К. Агінскага ў Залессі Таццяне Кляшчонак. Адам Мальдзіс звярнуўся да прысутных і з просьбай адшукаць правільную версію слоў Уладзіміра Караткевіча да паланэза «Развітанне з Радзімай». Так, тыя версіі, што запісаныя, не зусім дакладныя. Поўны варыянт песні выконваўся толькі аднойчы, менавіта на радзіме выдатнага кампазітара.

У сваіх мемуарах, якія ўпершыню выйшлі ў Парыжы ў 1826 годзе, Міхал Клеафас Агінскі выбачаўся, што піша іх на французскай мове і выказваў спадзяванне, што аднойчы і яго землякі змогуць прачытаць гэтыя тэксты. Цяпер запавет вядомага кампазітара выканапы. Так, у выдавецтве «Чатыры чвэрці» сёлета пабачылі свет успаміны самога кампазітара і яго нашчадкаў у перакладзе на рускую мову. Дарэчы, падчас гутарак у кулуарах доктар філалагічных навук Адам Мальдзіс, які ўжо пазнаёміўся з мемуарамі, зазначыў, што пісьменніцкія здольнасці М. К. Агінскага не такія яркія, як кампазітарскія. Але перакладчыца першага тома ўспамінаў Міхала Клеафаса з французскай мовы Алена Чыжэўская завочна не пагадзілася з шаноўным прафесарам. Яна заўважыла:

— Чытаючы расповеды Агінскага пра дыпламатычныя місіі, важныя дзяржаўныя прыёмы, аматар мастацкай літаратуры і сапраўды можа падумаць, што стыль аўтара надзвычай стрыманы, нават сухі. Тут шмат спецыяльных тэрмінаў. Але, мне думаецца, Міхал Клеафас рабіў гэта наўмысна — каб не ўзнікала рознačытанняў, інтэрпрэтацый, а эмацыянальнасць не скажала гістарычных фактаў. Гэта ж, па сутнасці, дакумент, сведчанне эпохі. На шчасце, у мемуарах ёсць старонкі, дзе Агінскі апісвае свае сапраўдныя эмоцыі, адчуванні, памятныя выпадкі. Да прыкладу, сустрэчу з Кутузавым — легендай свайго часу. І вось тут можна заўважыць сапраўдны талент апавядальніка, непасрэднасць думкі, яркасць успрымання. Шкада, што такіх момантаў у мемуарах нямнога.

Удзельнікі міжнароднага форуму мелі ўнікальную магчымасць здзейсніць невялікае падарожжа па мясцінах Агінскага, а таксама паглядзець пастаноўку да 250-годдзя М. К. Агінскага ў Мінскім абласным драматычным тэатры Так, мы пабачылі месца, дзе раней стаяў Маладзечанскі замак (некаторы час быў ва ўласнасці Агінскіх), наведалі вёску Аборак, дзе нарадзіўся сакратар Міхала Клеафаса Леанард Ходзька. Дарэчы, у Аборку сіламі прадстаўнікоў мясцовага бізнесу і пад кіраўніцтвам краязнаўцы Валерыя Бурэня было ачышчана і добраўпарадкавана месца, дзе раней стаяў касцёл святога Роха (тут хрысцілі Леанарда Ходзьку), а на месцы хаты выдатнага земляка ўстаноўлены памятны камень. Яркім акцэнтам вандроўкі стаяў Дом-музей М. К. Агінскага ў Залессі, які не так даўно адчыніў дзверы для наведвальнікаў.

Святкаванне 250-годдзя Міхала Клеафаса Агінскага ўжо амаль завяршылася. Гэтая дата стала выдатнай магчымасцю падвесці вынікі больш як двух дзесяцігоддзяў даследаванняў спадчыны нашага выдатнага земляка, а таксама штуршком для новых адкрыццяў, актыўных пошукаў. Думаецца, нас яшчэ чакаюць сапраўдныя сенсацыі!

**Марына ВЕСЯЛУХА,**
**фота аўтара**

*Унікальны праект*

# Пра айчынных Вулканаў

**Згодна са старажытнагрэчаскімі міфамі, увесь пантэон багоў, якія кіравалі сіламі прыроды і лёсамі людзей, месціўся на Алімпе. Бессмяротныя багі сілкаваліся нектарам і амброзіяй, задавальнялі ўласныя жаданні і пачуцці. Адзіным выключэннем з гэтага пантэона быў сын Зеўса і Геры — бог агню Гефест, скінуты бацькамі з бясклапотнага Алімпа. Вось хто паклаў пачатак кавальскай справы. У рымскай міфалогіі ён атрымаў імя Вулкан. Тоеснасць гэтага імя з назвай геалагічных утварэнняў на паверхні Зямлі, дзе з нетраў выліваецца расплаўленая магма, сведчыць, што сама прырода падказала людзям магчымасць гарачай апрацоўкі металаў. І гэты працэс стаў асновай далейшага развіцця цывілізацыі. Жалезны век — першая ступень навукова-тэхнічнага прагрэсу. Таму невыпадкова ў сучасным свеце найбольш распаўсюджанае прозвішча паходзіць ад кавалёў ва ўсіх нацыянальных варыянтах — ад Сміта да Каваленка і Кузняцова.**




*Яўген Сахута. Беларускае народнае кавальства. — Мінск: Беларусь, 2015. — 174 с.*

Пра беларускіх Вулканаў, якія выйшлі з балотных нетраў (бо ад першабытнага часу і амаль да сярэдзіны XIX ст. развіццё кавальства на нашых землях было абумоўлена здабычай жалеза з балотных руд), распавядае цікавая кніга доктара мастацтвазнаўства прафесара Яўгена Сахуты. У выданні падрабязна і аб'ектыўна асвятляецца гісторыя кавальства ў Беларусі, яго ўзнікненне, колькасныя і якасныя ўздымы і заняпады — у залежнасці ад сацыяльна-гістарычных абставін. Паводле археалагічных дадзеных вядома, што першымі пачалі карыстацца жалезнымі вырабамі плямёны мілаградскай культуры, расселеныя ў паўднёва-ўсходняй частцы Беларускага Палесся, у басейне Прыпяці, Іпуці, Сярэднім Падняпроўі (VI ст. да н.э. — III ст. н.э.). Пра гэта сведчыць шмат тапонімаў, накшталт Рудня і Гута ці вытворных ад іх. Ужо ў раннефеадальны перыяд існаваў багаты асартымент кавальскіх вырабаў: нажы, сярпы, сякеры, цёслы, малаткі, напільнікі, рыбалоўныя кручкі, брытвы, крэсівы, падковы, страмёны, наканечнікі коп'яў і стрэл, цвікі, фібулы, спражкі, жаночыя ўпрыгожанні і шмат іншага. У X — XI стст. кавальскае рамяство размяжоўваецца на гарадское і сельскае.

На мяжы XV — XVI стст., у перыяд інтэнсіўнага развіцця гарадоў і мястэчак у Вялікім Княстве Літоўскім, адбываецца дыферэнцыяцыя рамёстваў, дзяленне іх на больш вузкія спецыяльнасці, узбагачэнне прыёмаў вытворчасці. У выніку надання шэрагу паселішчаў правоў на самакіраванне высакаякаснае жалеза стала паступаць гандлёвымі шляхамі з іншых краін. Прафесійныя гарадскія кавалі абслугоўвалі патрэбы магнатаў і шляхты, царквы, заможных гараджан. Яны шырока прымянялі не толькі гарачае каванне, але і зварку жалеза са сталлю, абточку, абпілоўку, паліроўку вырабаў, насечку і нават інкрустацыю. У гарадскім ужытку былі пашыраныя замкі розных тыпаў, якія, акрамя сваёй тэхналагічнай складанасці, мелі прывабны знешні выгляд.



У працэсе развіцця гарадское кавальскае рамяство падзялялася на ўсё больш вузкія спецыяльнасці, у першую чаргу на ўласна кавальства і слясарства (халодную апрацоўку металу). Павелічэнне колькасці рамеснікаў выклікала патрэбу ў спецыялізаваных прафесійных аб'яднаннях заходнееўрапейскага тыпу — цэхах, якія мелі свае статуты і прывілеі. У канцы XVI ст. цэхі кавальскага профілю існавалі ў Гродне, Мінску, Магілёве, Слуцку, Полацку, Віцебску і іншых гарадах. Яны, у розных суадносінах, аб'ядноўвалі кавалёў, мечнікаў, слесараў, збройнікаў, злотнікаў, рымараў, пабрайцараў (майстры па вырабе металічных частак вупражы)... Стаць паўнавартасным членам цэха можна было толькі пасля трохгадовага навучання і спецыяльнага экзамену на майстэрства — зрабіць «шэдэўр» ці «штуку» (выраб мастацкага кшталту).

У XVI — XVIII стст. значна пашырыўся асартымент кавальскіх вырабаў і адпаведных спецыяльнасцей — да 25. Сюды, акрамя пазначаных, уваходзілі гваздзільнікі, бляхары, замочнікі-клудачнікі, іголнікі, лудзільшчыкі, руднікі, дымары, разьбяры па метале, чаканшчыкі, канвісары, што выраблялі алавяны посуд, людвісары — гарматы і званы, шыхтары — ніць з медзі, золата і срэбра, кульнікі — ядры і кулі, лучнікі, латнікі, броннікі-пішчальнікі, булатнікі і г. д. Яўген Сахута ў новай кнізе прыводзіць звесткі, што ў 1649 г. у краме буйнога віленскага купца Сцяпана Лябедзіча сярод тавараў былі замкі слуцкія і навагрудскія, лыжкі навагрудскія, скрабкі шарашоўскія, сашнікі валожынскія і інш.



Кавальскія вырабы разнастайнага функцыянальнага і дэкаратыўна-мастацкага прызначэння шырока ўжываліся ў манументальным свецкім і культавым дойлідстве: вароты, флюгеры, дзвярныя завесы, клямкі, алтарныя перагародкі, крыжы. Іх мастацкія характарыстыкі выразна адлюстроўваюць эвалюцыю архітэктурна-мастацкіх стыляў ад готыкі да мадэрну. У кнізе прыведзены сабраныя аўтарам цікавыя ўзоры кавальскай аздобы дзвярэй, скразных рашотак уваходных парталаў XVII ст., напрыклад касцёлаў у Вішнева і Міхалішках, сінагогі ў Старым Быхаве. У манастырах і шляхецкіх маёнтках часцей выкарыстоўваліся вырабы сельскіх кавалёў, дарэчы, даволі высокага майстэрства ўзроўню.

У сярэдзіне XVII ст., падчас руска-польска-шведскай вайны, рамёствы ў Вялікім Княстве Літоўскім прыйшлі ў заняпад. Вялікая колькасць рамеснікаў была перасялена ў Маскоўскую дзяржаву. У 1665 г. у Віцебску, найбуйнейшым рамесніцкім цэнтры, працавалі толькі тры кавалі, у Гродне ў 1680 г. іх засталося 12 (замест 130 у 1650 г.). Мясцовыя кавалі паранейшаму працавалі на розныя ваенныя і бытавыя патрэбы: выраб зброі, замкоў, падсвечнікаў, прылад працы, акоўванне карэт, скрынь і інш., стваралі разнастайныя малыя архітэктурныя формы. Прыкладам таму — славутая жырандоля пачатку XIX ст. работы паэта-самавука і майстра-каваля Паўлюка Багрыма ў касцёле вёскі Крошын Баранавіцкага раёна.

Адраджэнне мясцовых рамёстваў папярэднічала з'яўленню ў XVIII ст. буйных мануфактур. Да ранейшых металаапрацоўчых спецыяльнасцей дадалося чыгуналіцейнае рамяство. Як зазначае аўтар, тэхналагічныя асаблівасці чыгуну дазвалялі займацца масавай вытворчасцю вырабаў самых розных памераў і форм, прычым з даволі тонкім і разнастайным дэкорам. Нямала ўзораў чыгуналіцейнага мастацтва XIX — XX стст. у выглядзе балконаў, крыжоў, намагільных агароджаў і помнікаў ацалела да нашага часу. Па мастацкай стылістыцы яны часта нагадваюць аўтэнтычныя кавальскія вырабы і нават імітуюць іх.

Развіццё капіталістычнай вытворчасці з сярэдзіны XIX ст. стала выцясняць рамесніцкую працу на другі план. Спынілі дзейнасць амаль усе рамесніцкія цэхі. Пашыранне эклектыкі знізіла мастацкі ўзровень работ гарадскіх і мястэчковых кавалёў. Аднак, як падкрэслівае Яўген Сахута, у пачатку XX ст. у стылі мадэрн было створана шмат унікальных артэфактаў, якія цалкам адкоўваліся ўручную дзеля большай пластычнасці, арыгінальнасці і асіметрыі форм. У гэты час набывае самастойнасць сельскае кавальства: амаль кожная вёска мела свайго каваля ці карысталася паслугамі вандроўных кавалёў-цыганоў.

Пэўныя змены ў становішчы і характары кавальскага рамяства адзначаюцца ў савецкія часы. Перыяд пасля Першай сусветнай вайны, наступнае адраджэнне сельскай гаспадаркі вобразна адлюстравання ў закліку «Перакуем мячы на аралы».

У далейшым карэктывы ў становішча кавальскага рамяства ўнесла Вялікая Айчынная вайна. Як адзначае аўтар, пэўнай сферай дзейнасці кавалёў стала абслугоўванне партызанскіх атрадаў у рамонце зброі.

Пасля вызвалення Беларусі каваль быў патрэбны кожнаму калгасу, саўгасу. Але кавальству як традыцыйнаму рамяству і віду мастацтва ў пасляваенны час шмат увагі не надавалася, што паступова прывяло да яго заняпаду. У 1970 — 1980-я гады аўтэнтычныя кавальскія вырабы спатрэбіліся на рэстаўрацыйных работах у Траецкім прадмесці Мінска, Беларускім дзяржаўным музеі народнай архітэктуры і побыту ў Строчыцах, на рэстаўрацыі сядзібных, грамадскіх і культавых будынкаў у розных кутках Беларусі.

У постсавецкі час практычная запатрабаванасць кавальскіх твораў пашыралася ў катэджным будаўніцтве (вароты, агароджы, балконы, лесвіцы, камінныя прылады). Майстры-кавалі ўжо не адчуваюць недахопу ў заказах. Узніклі спецыялізаваныя кавальскія творчыя калектывы і майстэрні: «Дэкор» (Глыбокае), «Жар-птушка» (Брэст), «Крывіч» (Бяроза), «Коўня» (Мінск), фабрыка мастацкіх кавальскіх вырабаў «Ост» (Віцебск) і іншыя. Беларускія майстры кавальскага рамяства паспяхова ўдзельнічаюць у міжнародных фестывалях, конкурсах, выстаўках у Расіі, Польшчы, Літве і апошнім часам у Беларусі.

У кнізе Яўгена Сахуты яскрава паказана, як старажытнае рамяство прайшло складаны і творчы шлях ад зараджэння да сённяшняга дня. На падставе сведчанняў народных і сучасных майстроў раскрыты тонкасці традыцыйнай апрацоўкі металу і функцыянальнага ўпарадкавання кузні. Аўтарам прафесійна асветлены эстэтычныя характарыстыкі кавальскіх вырабаў у гістарычным кантэксце і праз прызму метафізічнай этнаграфічнай самасвядомасці. З любоўю і тонкім разуменнем ім сабраны і прадстаўлены багаты ілюстрацыйны матэрыял. Добрае і мастацкае афармленне кнігі, над ім працаваў мастак Вячаслаў Паўлавец.

Кніга «Беларускае народнае кавальства» адрасуецца даследчыкам матэрыяльнай культуры Беларусі, супрацоўнікам музеяў, рэстаўратарам, майстрам-кавалям, але будзе адкрыццём і асалодай для ўсіх, хто цікавіцца айчыннай гісторыка-культурнай спадчынай, разумее і адчувае мастацтва.

**Тамара ГАБРУСЬ,**
**доктар мастацтвазнаўства**

# Споведзь за гарбатай

**Што галоўнае ў жанчыне? Не апускаць рукі перад цяжкасцямі, быць упэўненай у сабе, дарыць блізкім цеплыню і любоў, змагацца за сваё шчасце… Заўсёды ёсць шанц палепшыць жыццё. Як? Мноства рэцэптаў поспеху — пад адной вокладкай. Прэзентацыя кнігі «Сустрэчы БЕЗ АБЦАСАЎ» журналісткі Надзеі Дрыла адбылася ў Дзяржаўным літаратурна-мемарыяльным музеі Якуба Коласа.**

Зборнік інтэрв'ю, што пабачыў свет у Выдавецкім доме «Звязда», — гэта караван гісторый 24 беларускіх жанчын, якія здолелі здзейсніць свае мары, нягледзячы на выпрабаванні лёсу. Сярод іх — дэпутаты і тэлевядучыя, урачы і журналісткі, дырэктары розных устаноў, прадпрыемстваў… Словам, жанчыны-кіраўнікі, бізнес-лэдзі, але не тыя, што недасягальна пазіраюць на свет з глянцавых старонак, а блізкія, знаёмыя, шчырыя суразмоўцы. Дзякуючы Надзеі Дрыла атмасфера кожнага інтэрв'ю — па-сапраўднаму хатняя, нібыта кожная з гераінь не проста скінула абцасы, але і ўсе маскі, здолеўшы распавесці, з чаго пачынаецца раніца і… чалавечнасць, як паводзіць сябе ў калектыве і ставіцца да мужчын, знаходзіць час для сям'і ў віры працоўных клопатаў і пры гэтым берагчы здароўе.

Дырэктар Дзяржаўнага літаратурна-мемарыяльнага музея Якуба Коласа Зінаіда Камароўская адзначыла, што за кожным нарысам пра моцную гераіню, якая ўвесь час робіць сваю справу, хаваецца чулая, далікатная жаноцкасць і дабрыня. «Толькі на працы яны — строгія і рашучыя кіраўнікі, а дома — клапатлівыя маці і бабулі, што гатуюць смачную ежу каля пліты, аддаючы усю ўвагу мужу і дзецям», — сказала Зінаіда Камароўская. Сапраўды, захаваць гэтую гармонію, аддзяляючы сямейныя справы ад прафесійных турбот, вельмі цяжка, але — цалкам магчыма. «Сустрэчы БЕЗ АБЦАСАЎ» пацвярджаюць: безвыходных сітуацый няма.

Сама аўтар прызналася, што ёй шчасціць на добрых людзей. Гэта адыграла вырашальную ролю пры падрыхтоўцы выдання, нават падчас нараджэння яго ідэі. Як ствараўся зборнік? «Усе сустрэчы адбываліся за гарбатай, у нефармальнай абстаноўцы, бо менавіта гэты напой спрыяе душэўным размовам. Кніга не столькі мая, колькі кожнай гераіні», — паведаміла Надзея Дрыла. І дадала: «Ніколі не ўспрымала інтэрв'ю як працу, але кожны раз нечаму вучылася, адкрывала новыя ісціны. Нават зрабіла сваю скарбонку цытат, што паўплывалі і на мой лёс, дапамаглі прыняць шмат рашэнняў у жыцці. Упэўнена, што кожны чытач таксама знойдзе нешта блізкае для сябе, тое, што адгукнецца ў сэрцы», — распавяла аўтар.



*Аўтар кнігі Надзея Дрыла (злева) і айчынная паэтэса Валянціна Паліканіна.*

Госці мерапрыемства пазнаёміліся з прэзентацыяй, дзе былі размешчаны самыя ўдалыя выказванні гераінь і іх фотаздымкі — ад дзяцінства да сучаснасці. Іх мэта — нагадаць, што кожны чалавек павінен вучыцца да самага апошняга дня, рабіць добрыя справы, знаходзіць сваё прызначэнне. Наведвальнікаў музея чакаў і другі сюрпрыз — некалькі музычных кампазіцый, якія ствараліся на месцы — поўная імправізацыя ад этнагурта «Водгук цішыні».

«Часам я забывалася на тое, што рэдактар, імгненна уцягвалася ў змест. Дзясяткі старонак праляталі незаўважна! Прыемна было працаваць з Надзеяй, таму што не кожны аўтар дакладна ведае, што хацелася б пабачыць на выхадзе ў гатовай кнізе, — настолькі плённа і поўнасцю паглыбляецца ў працу над сваім творам, уважліва слухае і чуе прапановы, ахвотна ідзе на кампраміс», — заўважыла рэдактар выдання Наталля Карасёва. На яе думку, кніга паказвае, як рухацца да сваёй мэты, дапамагае ўбачыць, што па-сапраўднаму важнае ў жыцці. Кожны можа павучыцца ў гераінь, тым больш што гэтыя ўрокі ненавязліва хаваюцца між радкоў.

Паэтэса Валянціна Паліканіна, якая стварыла прадмову да кнігі, зазначыла, што «зборнік дае адказы на пытанні, якія так ці інакш задае сабе кожная жанчына ў шчаслівыя ці сумныя хвіліны». У тым ліку — пра сэнс жыцця.

Адна з гераінь, дырэктар беларускага культурна-асветніцкага цэнтра ў Новасібірску Людміла Шчаслівенка, не змагла быць на прэзентацыі, але даслала ліст, дзе шчыра пажадала ўсім: «Якога б памеру ці формы ні былі абцасы і платформы, заставайцеся самімі сабой у любых абставінах».

Экс-старшыня Нацыянальнага банка Надзея Ермакова, у сваю чаргу, раскрыла яшчэ адну таямніцу нараджэння кнігі: «Нас, гераінь, літаральна разулі, мы аказаліся басаніж. А ў гэтым стане людзі знаходзяцца толькі дома. Надзея зняла з нас футляр. Яна сабрала ў адным зборніку гісторыі самых розных па ўзросце, знешнасці, характары жанчын — і гэта сапраўды захапляе!»

А вось для галоўнага рэдактара глянцавага часопіса *Pingouin* Ірыны Кабасакал кніга журналісткі стала штуршком да заканчэння ўласнага твора...

Ды вернемся да пачатку мерапрыемства. Чаму прэзентацыя прайшла менавіта ў Доме Коласа? «Музей быў абраны невыпадкова. Хацелася, каб прэзентацыя адбылася ў душэўным месцы, дзе б усе адчувалі сябе як дома, у разняволенасці. Ёсць і асабістая прычына. Калі я вучылася ў школе, першым месцам, куды трапіла ў Мінску, стаў музей Коласа. Ён адыграў сімвалічную ролю ў маім творчым шляху, падштурхнуў пайсці вучыцца на журфак. Справа ў тым, што аднойчы мой верш перамог у адным са школьных конкурсаў. Замест дыпломаў і падарункаў нас павялі па мясцінах, звязаных з паэтам», — канстатавала Надзея Дрыла.

Пра сваю кнігу Надзея не марыла, затое цяпер, пасля яе выхаду, плануе падоўжыць распачатую справу, бо яшчэ столькі цікавых гісторый чакаюць свайго часу… Журналістка працуе ў газеце «Звязда» намеснікам галоўнага рэдактара, курыруе творчы праект «Сямейная газета». Імкнецца да развіцця, праяўляе шчыры інтарэс да людзей. Перакананая ў тым, што кожная сустрэча для нечага дадзена.

Сярод жанчын, якія сабраліся ў Доме Коласа, былі і іншыя гераіні інтэрв'ю: дырэктар фітнес-цэнтра «Багіра» Наталля Наважылава, дырэктар Нацыянальнага цэнтра ўсынаўлення Наталля Паспелава, экс-дырэктар Белдзяржцырка Таццяна Бандарчук, дырэктар Нацыянальнай школы прыгажосці Алена Троіцкая ды іншыя.

**Марыя ВОЙЦІК,**
**фота аўтара.**

*З пошты «ЛіМа»*

## Перадусім — гуманнасць

З юнацтва люблю гісторыка-прыгодніцкую і дэтэктыўную літаратуру. Перыядычна перачытваю самыя цікавыя кнігі гэтых жанраў з маёй хатняй бібліятэкі. Гэта «Даніл Галіцкі» Антона Хіжняка, «Сямнаццаць імгненняў вясны» Юльяна Сямёнава, «Моцныя духам», «На берагах Паўднёвага Буга» Дзмітрыя Мядзведзева, «Момант ісціны» Уладзіміра Багамолава, «Дзікае паляванне караля Стаха» і «Чорны замак Альшанскі» Уладзіміра Караткевіча… Хто з маіх пяцідзесяцігадовых аднагодкаў не ведае гэтыя творы другой паловы мінулага стагоддзя!

Асаблівае месца ў гэтым шэрагу асабіста для мяне займаюць кнігі Мікалая Чаргінца. «Служба — дні і ночы», «Вам — заданне», «Следства працягваецца», «Фінал краба»… Нярэдка з чытача нібыта пераўтараешся ва ўдзельніка тых падзей. У гэтым асаблівасць прозы Мікалая Іванавіча. Будні міліцыі і крымінальнага вышуку ён ведае як генерал міліцыі і кандыдат юрыдычных навук. Чытаючы кнігі пісьменніка, адчуваеш сапраўднасць і натуральнасць апавяданняў. І, што асабліва важна, у творах прысутнічае гуманнае стаўленне да чалавека, а гэтага практычна няма ў сучасных тэледэтэктывах.

Прачытаў у «ЛіМе», што расійскай выдавецкай групай «Эксмо» хутка будзе завершана перавыданне 25-томніка твораў Мікалая Чаргінца. Вельмі рады гэтаму! Папраўбую папоўніць сваю бібліятэку новымі кнігамі.

**Аляксандр ПСТЫГА,**
**г. Брэст**

# Бліскавіцаю...

Ад паэтаў мы патрабуем абавязкова жарсці, неспатоленай прагі пачуцця, амаль дэманічнага стану, маўляў, толькі з такой умовай, з такімі хваляваннямі, з рэзкай узбуджанай віхурай думкі і ўнутранага ўзрушэння твор «дойдзе» да чытача, зможа абудзіць належную зваротную сувязь. Паэзія Ірыны Тулупавай — «алхімія слова» (Ян Парандоўскі). Эмацыянальная, удумлівая, але спакойная і разважлівая. Гаворка — пра паэтычны зборнік аўтаркі «Чую і адгукаюся…», які выйшаў у выдавецтве «Чатыры чвэрці». Кніга названа пранікнёна і хораша, з даверам да чытача і суразмоўцы. Каб спасцігнуць паэзію Ірыны, трэба «настроіцца» менавіта на яе хвалю, адчуць радок душой і сэрцам. Трэба зразумець перажыванні паэтэсы ў той момант, калі верш «выспяваў», выношваўся, задумваўся, зразумець, чым падпітваны паэтычны настрой.

Пісьменніца Ірына Тулупава — аўтар інтэлектуальны, дасведчаны ў вершаскладанні, яе чуйны голас лёгка зразумець і пачуць. Пачнеш чытаць вершы — па адным, паступова, — і абавязкова не адзін і не два непасрэдна «западуць» у душу, адгукнуцца суперажываннем, думкай і трывогай альбо спакоем і мудрасцю, гармоніяй душы Асобы і свету. Гэта не значыць, што ў паэтэсы няма прарыўных тэм, вострых праблем, скразнога болю і трывогі за сённяшні глабалізаваны свет. За дзіцятка, маленькае, кволае, найболей хвалюецца клапатлівая хросная маці і наша няўрымслівая аўтарка: «Ты хрышчоны вадзіцаю / сэрбнай / Чалавечак слаўны, / Гарэзлівы! / І дарога няхай / Будзе хлебнаю: / Бо зарукай — шчаслівая / Хрэсьбіны!».

Самая яркая старонка вершаванага зборніка «Чую і адгукаюся» — верлібры Ірыны Тулупавай. Думка, народжаная сузіраннем з'яў, артэфакта, разгортваецца «па ўзыходзячай». Верлібры добра перадаюць рытмы сэрца, дыхання, біццё крыві ў жылах. Нездарма галоўны раздзел зборніка носіць такую ж назву, як і сама кніга, — «Чую і адгукаюся». Галоўнае для паэтэсы — думка, настрой, энергія, пачуццё, адкрытасць і роздум. Ёсць у вершах і знаходкі, адкрыцці: шчырая заклапочанасць духоўным здароўем асобы, настроенасць на захаванне народнай маралі, сяброўства, філасофія быту і быцця (вершы «Эпоха *Delete*», «Здароўкаецца кончыкамі пальцаў», «Дзіця пахне пачаткам жыцця»).




Паэтэсе ўласцівы абвостраны слых да ўсяго, што адбываецца ў прыродзе і ў самім чалавеку. У вершах-верлібрах выяўляе глыбіню душы, паэтычны погляд на свет, які нараджаецца з узрушэння, з гулу, гуку, з дотыку да зямлі і чалавека: «З куста бэзу / пяе салавей / Чую / Адгукаюся». Па-філасофску заглыблены і адначасова аналітычны раздзел «Крымскі верлібр». Узнёсла і сакральна, але па-свойму нечакана распавядае паэтэса пра гару святога Пятра Ай-Петры. Вершы Ірыны — фотаздымкі нябачнага, як маланкі-бліскавіцы ці падслуханыя рытмы ўласнага сэрца.

Асаблівую ўвагу прыцягвае цыкл вершаў «Вандроўка па Стамбуле». І тут пісьменніца «ідзе» ад асабістага ўражання, душэўнага настрою. Але, бадай, самая галоўная ў паэтычным зборніку Ірыны Тулупавай нізка вершаў «Спроба быць заказанай і любіць». Вобразна і з відавочна новым пачуццём паэтэса спавядаецца пра каханне як абнаўленне жыцця, пра «тры ўзросты» жанчыны, іх няпростыя лёсы («Мудрэц той дождж! Прахожых лучыць»), пра страты і расчараванні: «... Ты чуеш, любы?! — / Перад расстаннем нема я, / Безабаронная — да згубы!».

Звычайнае аўтарка ўздымае да ўзвышанага: у адно імгненне, калі менш за ўсё думаеш пра паэзію, нечакана з'яўляецца настрой, прыходзіць натхненне. Лірыка Ірыны Тулупавай арганічна ўплятаецца ў той дзівосны ўзор-палатно, чароўны габелен, які «выткалі» з прачулых уражанняў уласнага жыцця беларускія жанчыны-паэтэсы, — ад Канстанцыі Буйло і да Яўгеніі Янішчыц.

**Уладзімір НАВУМОВІЧ**

# Вершнік ля Крэва

## Падарожжа з Вітаўтам Вялікім




**Велічныя замкі — адна з самых яркіх славутасцей любой краіны, напамін пра рамантычныя часы рыцарскіх паядынкаў і ўрачыстых баляў. Вакол гэтых магутных збудаванняў мноства легенд, міфаў і неверагодных гісторый. Беларускія замкі — не выключэнне. Вашай увазе — кніга Анатоля Бутэвіча «Таямніцы Крэўскага замка: падарожжа па нашай гісторыі з Вітаўтам Вялікім», што выйшла ў Выдавецкім доме «Звязда».**

Выданне распавядае пра месца, дзе не раз мяняўся ход часу, шумелі вялікія бітвы, заключаліся важныя палітычныя пагадненні.

Першы на нашай зямлі мураваны кастэль, які зараз нагадвае непрыступныя гордыя руіны, мусіць парушыць клятву маўчання, падняць успаміны, ад якіх заміраe сэрца. Крэўскаму замку амаль 700 гадоў. Хочацца верыць, што ў будучым ён раскрые дзверы, як Мірскі ці Нясвіжскі.

Анатоль Бутэвіч узгадвае ўсё, чым вядомы Крэўскі замак, — не толькі 14 жніўня 1385 года, калі было падпісана знакамітае пагадненне паміж Вялікім Княствам Літоўскім і Каралеўствам Польскім. За два гады да гэтага адбылася яшчэ адна важная падзея: у падзямеллі Княскай вежы па загадзе свайго пляменніка Ягайлы быў забіты адзін з вялікіх князёў літоўскіх Кейстут.

З Крэўскім замкам звязаныя шматлікія знаныя імёны: Альгерд і Гедымін, Войшалк, Міндоўг і Вітаўт. Аўтар расказвае пра ўсіх, запрашаючы чытачоў у падарожжа па лабірынтах айчыннай гісторыі. Кніга падзелена на захапляльныя, інфарматыўныя часткі, кожная з якіх выглядае як асобнае мастацкае апавяданне з дакументальным зместам.

Побач з меркаваннямі гісторыкаў і дадзенымі летапісаў ды хронік у выданні шмат цікавых спрэчак, згадак і меркаванняў. Верыць ці не — права чытача. Казка ў Анатоля Бутэвіча ўдала спалучаецца з рэальнасцю, а звесткі пра загадкавыя падземныя хады ці прывідаў суадносяцца з сур'ёзнымі гістарычнымі фактамі.

«Дужы вершнік у ваенных даспехах прышпорвае каня, высока падымае агалены меч…» — распавядае пісьменнік. Вялікую колькасць дадзеных ён здолеў агарнуць у па-мастацкі якасную абалонку. Ад гэтага тэкст захапляльны, нібы сапраўдная вандроўка. Чытачы рухаюцца ўглыб стагоддзяў побач з вялікім князем Вітаўтам. Менавіта да яго часцей за ўсё звяртаецца аўтар. Чаму? Княжанне Вітаўта лічаць росквітам ВКЛ. Прычым мяркуюць не толькі па вайсковых справах, але і па клопатах пра духоўнае ўзвышэнне народа.

Кніга пра Крэўскі замак вельмі шматгранная: ахоплівае яшчэ многія знакавыя мясціны нашай краіны. Анатоль Бутэвіч неаднаразова падкрэслівае, што Беларусь — гэта святое незнішчальнае поле, краіна, якая насуперак войнам і разбурэнням адраджалася, ажывала, «красавала новым коласам, цвіла блакітнавокімі васількамі».

Няцяжка здагадацца, што выданне адрасавана не толькі аматарам даўніны, але ў першую чаргу і моладзі. Аўтар падкрэслівае: продкаў трэба помніць і паважаць, бо яны аднаўлялі зямлю, на якой мы жывём, дзеля нас, будучых пакаленняў. Без усведамлення сябе часткай радзімы, жаданне ведаць мінулае чытаць кнігу проста не мае сэнсу.

Нягледзячы на вялікую колькасць імёнаў і лічбаў, старонкі пралятаюць перад вачыма імгненна. У кнізе свая філасофія. Кажучы пра народ, Анатоль Бутэвіч упэўнены: кожны асобны колас можна зламаць, а звязаныя ў адзін сноп набываюць вялікую моц.

Аповед пачынаецца з лагічнага пытання: хто заснаваў Крэва? Адказ даецца вельмі разгорнуты, у некалькіх частках. Да нашых дзён гэта ўсё яшчэ складаная гістарычная загадка з некалькімі версіямі. Сёння Крэва знаходзіцца ў Смаргонскім раёне Гродзенскай вобласці. Адкуль жа паходзіць назва? Можа, ад племені крывічоў, а можа, — ад імя старажытнага язычніцкага святара ці ракі, дзе аднойчы адбылася крывавая бітва… Пісьменнік паведамляе: некаторыя даследчыкі лічаць, што на месцы цяперашняга Крэва людзі жылі яшчэ 3 — 5 тысяч гадоў да нашай эры! Выходзіць, беларускае мястэчка — аднаго ўзросту з егіпецкімі пірамідамі? Усё можа быць!

*У 1385-м Крэва апынулася ў эпіцэнтры еўрапейскай палітыкі. Тут адначасова сутыкнуліся інтарэсы Вялікага Княства Літоўскага, Каралеўства Польскага, Венгрыі і Аўстрыі, а ў дадатак — Расіі і Тэўтонскага ордэна.*

Кнігу абавязкова трэба чытаць па парадку, бо цяжка зразумець, якое дачыненне да Крэва маюць, напрыклад, нейкія Нальшчаны. Ці чулі вы пра іх? Аўтар праводзіць даследаванне побач з чытачамі, паглыбляючыся ў гісторыю вобласці, дзе калісьці, як аказалася, знаходзіліся ажно тры гарады — Свір, Гальшаны і Крэва. Хто быў першымі насельнікамі Нальшчан і, адпаведна, Крэва? Балты ці крывічы? Чаму Крэва назвалі Даўмонтавым горадам? Як звязана з ім забойства Міндоўга? Незлічоныя бітвы, шлюбы, перамовы…

Інтрыгуюць загалоўкі кожнай часткі кнігі — у гэтым увесь Бутэвіч! Вось табе «Легенда пра самазабойства абаронцаў замка Піленай». Думаеш: куды зноў завядзе гісторыя? Чытаеш і адкрываеш новы свет… У кнізе шмат звестак пра рыцараў-крыжакоў (у кантэксце эпохі — нікуды ад гэтага не дзецца). Аказваецца, яны павінны былі абараняць веру, распаўсюджваць хрысціянства, але часцей з мэтай «абароны» скарыстоўвалі крыжовыя паходы, заваёвы, знішчэнні. Не абмінулі і вялікалітоўскія землі. Прыйшлі нібыта паквітацца з паганствам, а насамрэч жорстка расправіліся з мясцовымі жыхарамі.

Узгадваецца яскравы эпізод з летапісаў: атрад рыцараў-крыжакоў у лютым 1336 года пад кіраўніцтвам гросмайстра Тэўтонскага ордэна Дзітрыха фон Альтэнбурга напаў на Жмудзь і стаў аблогай каля замка Піленай. Яго жыхары і абаронцы, каб не здавацца ворагам, вырашылі знішчыць свае скарбы, крэпасць і самі сябе. Непакорнасць і непадатнасць захопнікам, ахвяраванне жыццём у барацьбе за свабоду нашчадкаў — яшчэ адна нацыянальная адметнасць, пра якую кажа пісьменнік.

*Пісьменнік паведамляе: некаторыя даследчыкі лічаць, што на месцы цяперашняга Крэва людзі жылі яшчэ 3 — 5 тысяч гадоў да нашай эры! Выходзіць, беларускае мястэчка — аднаго ўзросту з егіпецкімі пірамідамі? Усё можа быць!*

Дзякуючы кнізе, можна даведацца, як трымаліся замкі пад напорам ворагаў, якім фартэцыям надавалі першую ўвагу будаўнікі, што за хітрыкі выкарыстоўвалі, каб заблытаць захопнікаў, колькі часу доўжыліся аблогі. У асобнай частцы змешчана інфармацыя пра замкі з вялікалітоўскага абарончага пояса — літаральна некалькі фактаў. Размова ідзе пра Лідскі замак, збудаваны па загадзе Гедыміна, Медніцкі, адзін з самых вялікіх, Тракайскі, у якім нарадзіўся будучы вялікі князь літоўскі Вітаўт... Такім чынам, чытачы падарожнічаюць не толькі ля Крэва, а і па ўсёй старадаўняй беларускай зямлі.

Напачатку прагучала слова «кастэль». Зразумела, аўтар патлумачыць, што гэта такое і якую сувязь Крэўскі замак мае са збудаваннямі старажытнай Рымскай імперыі. «Крэўская фартэцыя нагадвала еўрапейскія рыцарскія замкі і адносілася да шасці самых магутных замкаў ВКЛ», — кажа Анатоль Бутэвіч. Пры гэтым замак не хваліўся багаццем архітэктуры ці шыкоўнымі інтэр'ерамі, тым не менш ён «дастойны сведка не толькі майстэрства нашых дойлідаў, але мужнасці і кемлівасці ягоных абаронцаў».

Займаюць сваё месца ў кнізе самыя цікавыя легенды, звязаныя з Крэвам, — пра кемлівага, гарэзлівага, мужнага хлопца Юрку і насыпаную ім гару ля замка, непрыступную пані, замураваную адрынутым залётнікам у сцяну разам з любімым сабачкам, князя, што апранаў жаночую спадніцу…

*Чытачы рухаюцца ўглыб стагоддзяў побач з вялікім князем Вітаўтам. Менавіта да яго часцей за ўсё звяртаецца аўтар. Чаму? Княжанне Вітаўта лічаць росквітам ВКЛ. Прычым мяркуюць не толькі па вайсковых справах, але і па клопатах пра духоўнае ўзвышэнне народа.*

Шмат сказана пра замкавае беларускае дойлідства, парадак пабудовы палацаў — ад закладання камянёў да ўпрыгожвання княскіх пакояў.

Па словах Анатоля Бутэвіча, Крэўскі замак узводзілі сапраўдныя волаты. Бо як простаму чалавеку ўкласці ў сцены важкія валуны? Замак знаходзіўся на высокім насыпным узвышшы, а кранаў і пад'ёмнікаў на той час не было. Сцены мелі вышыню да 13 метраў, таўшчыня — 2,75 м, працяглась толькі усходняй — больш за 100 метраў! Колькі тон камянёў і цэглы спатрэбілася? А працоўных рук?..

Крэўскі замак паўстаў на шляху ворага і на пачатку XX стагоддзя. Падчас Першай сусветнай вайны збудаванню было амаль 600 гадоў! На жаль, менавіта ў гэты час палац быў разбураны. Але вернемся да перыяду яго росквіту. У 1385-м Крэва апынулася ў эпіцэнтры еўрапейскай палітыкі. Тут адначасова сутыкнуліся інтарэсы Вялікага Княства Літоўскага, Каралеўства Польскага, Венгрыі і Аўстрыі, а ў дадатак — Расіі і Тэўтонскага ордэна. Сапраўды, Крэўская унія — дакумент, які па сёння выклікае спрэчкі вучоных і палітыкаў, таму, дзякуючы кнізе, чытачы пазнаёмяцца з рознымі меркаваннямі і зробяць уласныя высновы.

Цікавая частка — «Каралеўская Галгофа, або Ягайлава падсумаванне». Тут аўтар ставіць сябе на месца князя і прыводзіць яго магчымую споведзь аб уласным жыцці, цяжкім і супярэчлівым.

Цяпер ад замка ў Крэве засталіся толькі руіны, аблепленыя зелянінай, шыпшынай, галінамі маленькіх дрэў. У выданні шмат здымкаў (Уладзіміра Шолка, Людмілы Паляшчук, Анатоля Бутэвіча), якія паказваюць сучасны выгляд палаца і навакольных мясцін. На старонках шмат і старадаўніх мастацкіх дакументаў — партрэтаў магутных князёў і іх жонак, выяў паядынкаў, гравюр і мініяцюр з летапісаў. Вялікую каштоўнасць маюць знакамітыя гравюры Язэпа Драздовіча. Кнігу можна смела назваць альбомам-падарожжам ці прамым парталам у гісторыю.

**Марыя ВОЙЦІК**



# З адказнасцю за слова

**Перачытваць любімых аўтараў — сапраўды задавальненне. Здаецца, ведаеш ужо пра ўсё, што там напісана, але кожны раз знаходзіш нейкі новы штрышок, нейкую цікавую, не заўважаную раней думку.**

Так у мяне з чытаннем напісанага Янкам Брылём, шаноўным Іванам Антонавічам, з якім лёс падараваў шчасце сустракацца, гаварыць і нават перапісвацца, калі жыў у Наваполацку.

Усё напісанае майстрам выклікае шмат асацыяцый і роздумаў. У адной са сваіх мініяцюр Брыль прыводзіць выказванне Русо: «Я добра разумею, што чытачу не вельмі трэба гэта ведаць, але для мяне вельмі патрэбна расказаць яму пра гэта».

Вось, аказваецца, што рухае напісаным!.. Але не для кожнага. Пішуць жа дзеля славы, заробку, па замове, каб заняць пасаду, хоць і не кожны ў гэтым прызнаецца. Але ў няўхільнай патрэбе, каб расказаць пра сябе…

Памятаю, што і самога Брыля часам папракалі: надта зацыклены ён на сваёй асобе, рэдка звяртаецца да іншых жанраў, не піша летапіс жыцця краіны. Нібыта яго развагі і замалёўкі, яго шчыры дзённік уласнай душы не з'яўляецца такім летапісам свайго пакалення і, урэшце, часткай летапісу ўсёй краіны!.. Ды і не цураўся Брыль і мастацка-дакументальнага жанру. Узгадаем напісаную ім у суаўтарстве з Калеснікам і Адамовічам кнігу «Я з вогненнай вёскі».

Аднойчы, пару гадоў таму, я ў душы пакрыўдзіўся на аднаго маладога крытыка: ён параіў мне часцей пісаць дакументальную прозу — успаміны пра канкрэтных людзей, з якімі зводзіў лёс, аддаючы перавагу не вымыслу, а факту. Але крыўду гэтую пераадолеў — і нарадзілася серыя эсэ, партрэтаў, якія выклікалі зацікаўленыя водгукі і нават лісты з просьбай працягваць працаваць у гэтым жанры.

І сапраўды, сённяшні чытач часта аддае перавагу дзённікам, успамінам, мемуарнай літаратуры. Тэрмін «нон фікшн» стаў у наш час модным і папулярным. Можа, таму, што ў вірлівым жыцці ўсё менш застаецца часу і месца да працяглага, удумлівага чытання, а можа, і таму, што многае прыдуманае, адрэтушыраванае, няшчырае не вытрымала выпрабавання часам.

Ды і дадатковая трыбуна з'явілася — інтэрнэт. І хоць у сеціве можна начытацца такога, што знікае настрой і апетыт, не-не ды праврецца шчыры аповед, свежая думка, таленавітае назіранне.

У Яўгенія Еўтушэнкі ёсць цікавы верш «Граждане, послушайте меня!» — пра звычайнага марачка, які ў асяроддзі людзей, што не надта звяртаюць на яго ўвагу, імкнецца расказаць пра сябе. Ён іграе на гітары і рэфрэнам гучаць радкі «Граждане, послушайте меня!»

Расказаць пра сябе — гэта расказаць і пра свой час, пра сваю зямлю, пра блізкіх і родных людзей. З цікавасцю чытаю дзённікавыя запісы Івана Шамякіна і Вячаслава Адамчыка, Міколы Лобана і Вісарыёна Гарбука, Уладзіміра Гніламёдава і Уладзіміра Дамашэвіча, Віктара Шніпа, эсэ Янкі Сіпакова і Казіміра Камейшы, зацемкі Леаніда Галубовіча…

І, здавалася б, прыватныя факты, асабістыя ўспаміны, у якіх няма нічога незвычайнага, кранаюць душу і выклікаюць суперажыванні ў чытачоў.

Пісаць пра сябе цяжка, бо трэба быць шчырым і не аглядвацца на ўнутранага цэнзара, трэба быць асобай, а не проста рэгістратарам падзей уласнага жыцця. Хаця часта і простая рэгістрацыя падзей дае чытачу больш яскравае ўяўленне пра час і эпоху, чым цэлыя гістарычныя манаграфіі.

Пісьменніцкая публіцыстыка — яшчэ адзін вельмі важны жанр літаратуры. Пісьменнік умее ў самым звычайным факце ўбачыць істотнае і значнае, зрабіць абагульненне, паставіць праблему.

Мне пашчасціла вось ужо трэці год весці своеасаблівы радыёблог «Роздум» на першым канале Беларускага радыё. Скажу шчыра: спачатку нават не чакаў такой актыўнай рэакцыі слухачоў, такіх шчырых і прыязных водгукаў. Аказваецца, людзям вельмі патрэбна жывое пісьменніцкае слова, роздум пра наша жыццё, пра надзённыя праблемы сучаснасці.

Яркім публіцыстам і патрыётам быў да самага свайго апошняга дня мой зямляк, франтавік, лаўрэат Дзяржаўнай прэміі Алесь Савіцкі. Памятаю, з якой увагай слухалі яго гарачыя прамовы ў родным Полацку падчас літаратурных чытанняў, на розных сустрэчах у школьных, вытворчых калектывах, у воінскіх часцях, на ўроках мужнасці ў Саюзе пісьменнікаў Беларусі. Яго палымянае слова ішло да людзей з газетных і часопісных старонак, з тэлевізійных экранаў, з радыёхваляў.

У нас цікавая літаратура, мы маем нямала імёнаў, якімі можна ганарыцца, якіх варта перакладаць на іншыя мовы, каб пра іх шырэй ведалі ў свеце.

Быць літаратарам — высокая місія і вялікая адказнасць. І толькі шчырае, глыбокае і яркае слова, жывое сведчанне эпохі і свайго асабістага ўдзелу ў жыцці краіны і грамадства застаецца для сучаснікаў і нашчадкаў.

Гэтага глыбокага і яркага слова пра час і пра сябе жадаю калегам па пяры.

**Навум ГАЛЬПЯРОВІЧ**

# Размаўляць пункцірамі

**Беларускае хоку? Сёння гэтым нікога не здзівіш, бо ўжо на працягу стагоддзя беларускія аўтары час ад часу звяртаюцца да традыцыйных форм японскага вершаскладання. А пачалося ўсё з Максіма Багдановіча, які ў 1915 годзе напісаў чатыры танка.**

З гэтай нагоды ў Літаратурным музеі Максіма Багдановіча сабраліся сучасныя паэты, якім даводзілася пісаць вершы паводле японскіх узораў, а таксама зацікаўленая публіка. Падчас вечарыны гучалі не толькі творы, але і роздумы аўтараў пра плённасць звароту да хоку і танка.

Распачалося мерапрыемства чытаннем танка Максіма Багдановіча ў перакладзе на японскую мову і знаёмствам з Масакай Тацумі — кіраўніком Цэнтра японскай культуры ў Мінску.

Пра свой зварот да формы хоку, пра эвалюцыю ўласнай творчасці ад класічнага верша да пункціра распавёў гасцям музея Алесь Разанаў: «Пункцір — гэта імпрэсія, выява, намёк. Пункцір з'яўляецца толькі тады, калі сэнс суадносіцца з гукам, таму кожнае слова ў пункціры незаменнае», — так патлумачыў творца ўласна вынайдзеную форму. Паводле аўтара, пісаць пункціры можа кожны, галоўнае — быць чуйным, уважлівым.

Для іншых паэтаў стварэнне хоку таксама з'явілася хутчэй карысным практыкаваннем, чым магістральным кірункам творчасці. На думку Арцёма Кавалеўскага — аўтара кнігі «Адмысловыя гульні», — пры пераносе гэтай формы на еўрапейскую глебу трэба шукаць афарыстычнасці. «Лакаічнае, ёмістае хоку — выдатная форма самавыяўлення для мужных, вытрыманых самураяў. А вось лірычным паэтам яна не пасуе», — упэўнены Міхал Бараноўскі.

У вечарыне таксама бралі ўдзел паэты Людміла Хейдарава і Канстанцін Касяк. Нягледзячы на абачлівае стаўленне творцаў да паэтычных магчымасцей хоку, фестываль мінімалістычнай паэзіі прымусіў задумацца над мастацкім патэнцыялам не толькі радка ці словазлучэння, але і асобнага слова. Раптам у час узрушэння ці захаплення мы таксама размаўляем пункцірамі альбо танка, а кожны чалавек, здольны адчуваць магутнасць і веліч слова, не меншы паэт за самых вялікіх класікаў?..

**Юлія ШПАКОВА**

## Даніна памяці

**Раман ЛУБКІЎСКІ**

### Два львоўскія эцюды

**1. Раніца**

*Сыходзіла завеса ночы хмура,*
*За ёй — ярчэй — плылі*
*сузор'і наўздагон.*
*І як акторы крунцяць парасон,*
*Так промні крыляць дах*
*сабора Юра.*
*А шпагі ўжо крыжуюцца.*
*Клінкі*
*Звіняць, бо найвышэйшай*
*пробы…*
*Скрыпелі дрэвы ў закліку:*
*«Да спробы!»*
*Ды раптам нам трамвайныя*
*званкі*
*Вястуюць неспадзеў:*
*«Другая дзея!»*
*…І промнік ночы сцёз,*
*праменьчык дня прыцік*
*Знядужана, але падаў ручнік*
*Зялёны ранак: з радаснай*
*надзеяй*
*Правіцу воя да нябёс узвёў;*
*Удзячны за такую перамогу,*
*Для змагара адкрыў сем*
*брамаў Львова,*
*І сем красуняў вызналі дарогу.*

**2. Вечар**

*Фіялетавы змрок заглядаў*
*у завулкі,*
*І ламалі прамені бажніц*
*вітражы,*
*А трамвай, перапоўнены*
*стомаю, мулкі*
*Па калена кіпеў у пялёстках*
*імжы.*
*Сцёблы бэзу плылі за рудыя*
*аколіцы,*
*За муры серабрыстыя,*
*тыя валы,*
*Дзе гайдалася сонца*
*вавёркай-нявольніцай —*
*Закапцелае, ў плямах*
*цэменту, смалы.*
*Сцень дамы паглынаў і*
*фантанчыкаў шпулькі.*
*Прыгасалі фасады, Зняў*
*і дах абручы.*
*І да ранку лілеі куляліся*
*ў булькат —*
*Зоркі ў водарных жменьках*
*сваіх зберагчы.*

**Пераклад з украінскай мовы Сяргея ПАНІЗНІКА**

# У нябёсы славянскія…

**Сумная вестка. Не стала Рамана Лубкіўскага — паэта, перакладчыка, крытыка, культуролага, дзяржаўнага і грамадскага дзеяча, дыпламата.**



*Раман Лубкіўскі на адкрыцці Дома-музея Петруся Броўкі ў Пуцілкавічах падчас Рэспубліканскага свята паэзіі ў чэрвені 1985 года.*

Лаўрэат Нацыянальнай прэміі Украіны імя Т. Шаўчэнкі. Адзін з заснавальнікаў Міжнароднага фонду Янкі Купалы. Вершы Рамана Лубкіўскага ў перакладзе на беларускую мову змешчаны ў анталогіі «Украінская савецкая паэзія» (Мінск: Мастацкая літаратура, 1975). У серыі «Паэзія народаў СССР» выдадзены яго зборнік «Пялёсткі свята» (Мінск: Мастацкая літаратура, 1990) — у перакладах Рыгора Барадуліна, Генадзя Бураўкіна, Сяргея Законнікава, Васіля Зуёнка, Валянціны Коўтун, Янкі Сіпакова.

Перастварэнні вершаў дваццаці беларускіх аўтараў змясціў Раман Лубкіўскі ў сваім зборніку «Слов'янське небо» (Львоў, 1972). Для кнігі «Слов'янська ліра» (Кіеў, 1983) ён пераклаў паэтычныя творы з адзінаццаці славянскіх моў. Першы з пятнаццаці беларускіх аўтараў, як і ў папярэднім зборніку, — Францыск Скарына.

Раман Лубкіўскі быў укладальнікам кніг «Максим Богданович. Стратим-Лебідь» (Львоў, 2002), а таксама «Шевченкова дорога в Білорусь» (Львоў, 2004). Ініцыяваў выданне кнігі Багдана-Ігара Антоныча «Зялёнае Евангелле» (Львоў, 2011) на ўкраінскай і беларускай мовах. Творы класіка Б.-І. Антоныча (1909 — 1938) пераклалі Эдуард Акулін, Мікола Аляхновіч, Рыгор Барадулін, Сяргей Законнікаў, Васіль Зуёнак, Сяргей Панізнік, Вячаслаў Рагойша. Старонкі празаічных накідаў паэта пераклала Таццяна Кабржыцкая.

Наш львоўскі сябар з творчымі візітамі часта наведваў Беларусь.

**Сяргей ПАНІЗНІК, фота аўтара**

# Пост-«ТЭАРТ»

## Нататкі прадузятага гледача

**Мінуў V Міжнародны форум тэатральнага мастацтва «ТЭАРТ». На працягу месяца фэст прапаноўваў гасцям разнапланавыя спектаклі і мерапрыемствы. У афішу ўвайшло 25 пастановак — замежных і ў праграме *BelarusOpen*. Усе тэатральныя пляцоўкі сталіцы са дня ў дзень жылі асаблівай атмасферай. У тэатральнай зале — вядомыя крытыкі, тэатразнаўцы, журналісты, выкладчыкі… Адметна, што многія айчынныя пастаноўкі ўпэўнена канкурыравалі з праектамі прафесійных замежных тэатраў. Як тут абысці ўвагай велізарную працу, зробленую беларускімі тэатральнымі дзеячамі за апошні год? Не будзем «разбіраць на цытаты» ўсе праекты «сваіх» рэжысёраў, прадстаўленыя ў праграме, — раскажам больш падрабязна пра некаторыя з іх.**



Сцэна са спектакля «На дне» Брэсцкага акадэмічнага тэатра драмы.

### ЗАМУЖ? ЗА ДВАРАНІНА!

Рэжысёр-пастаноўшчык Магілёўскага абласнога драматычнага тэатра Саўлюс Варнас прыехаў на «ТЭАРТ» са спектаклем «Жаніцьба», які адбыўся на сцэне Рэспубліканскага Палаца культуры прафсаюзаў. Цікавая фантасмагарычная п'еса Мікалая Гогаля паўстала перад гледачамі ў жанры філасофскай камедыі, дзе кожны вобраз суправаджаецца асаблівай гісторыяй. Купецкая дачка Агаф'я Купярдзягіна вырашыла выйсці замуж за двараніна і папрасіла знатную свацццю Фёклу Іванаўну дапамагчы ёй у гэтым. Сваццця знайшла аж шэсць кандыдатаў, у кожнага з якіх патэнцыяльная нявеста знайшла недахопы. На працягу дзеяння Агаф'я Ціханаўна размаўляе з жаніхамі, спрабуе даведацца пікантныя падрабязнасці іх жыцця і ў выніку разумее, што ў кожнага ёсць добрыя рысы характару і калі аб'яднаць іх у адно цэлае, атрымаўся б неблагі варыянт…

Спектакль «Жаніцьба» сінтэзуе магчымасць пасмяяцца, паслухаць жарты і ўсур'ёз падумаць над тым, што ні адзін з герояў насамрэч не з'яўляецца шчаслівым, бо шчасце — гэты быць побач з каханымі, а яны ўсе — самотныя. Пастаноўка ўражвае цікавым падыходам да дэкарацый. На сцэне не ўбачыш вялікіх дрэў альбо багатага дома, затое ўразіць двухметровая шлюбная сукенка і галовы жаніхоў на сталовых талерках. Рэжысёр адзначае: «Тэатр — гэта інстытут, які павінен правакаваць гледачоў на ўнутраны дыялог». І ў «Жаніцьбе» гэта атрымалася.



Сцэна са спектакля «Жаніцьба» Магілёўскага драматычнага тэатра.

### А ШТО «НА ДНЕ»?

П'есу Максіма Горкага «На дне» на сцэне Рэспубліканскага палаца культуры прафсаюзаў прадставіў Брэсцкі акадэмічны тэатр драмы. Сучасная інтэрпрэтацыя вядомага твора выклікае супярэчлівыя пачуцці: зразумела, рэжысёр тлумачыць, наколькі драматургія Горкага актуальная сёння, акцёры паказваюць, што, нягледзячы на час, праблемы ва ўзаемадзеянні сацыяльнага асяроддзя застаюцца, але ж сама падача такога матэрыялу здаецца нязвыклай.

У пастаноўцы рэжысёр Цімафей Ільеўскі адкрывае дзверы ў безвыходнасць: маленькі двор, дзе існуюць звычайныя людзі, кожны дзень па звычайным раскладзе. Персанажы жывуць рознымі эмоцыямі: кахаюць, ненавідзяць, зайздросцяць, — але ж сумны і брудны двор аб'ядноўвае ўсіх у кола расчаравання і, магчыма, крыўды на лёс. Яны марaць вырвацца са смуты, знайсці іншы шлях, але абставіны і ўнутраная боязь не дазваляюць зрабіць крок наперад. Героі, выкінутыя з жыцця, існуюць у хляве.

Праз увесь спектакль тонкай ніткай праходзяць словы «Так нельга!». Што чакае жыхароў бруднага двара, спытаеце вы? А што можа чакаць людзей, якія апынуліся «на дне»?

### МІСТЫЧНАЯ СЯДЗІБА

І зноў вернемся да Магілёўскага абласнога драматычнага тэатра, які, акрамя як «Жаніцьбай», парадаваў гасцей форуму спектаклем «У маленькай сядзібе» па п'есе польскага пісьменніка Станіслава Віткевіча. Сюжэт пастаноўкі крыху незразумелы, у ім змяшана містыка, фантастыка, рэальнасць і сны… Акцёры ў шыкоўных касцюмах сыходзяць са сцэны ў тэатральную залу і разбіраюць канфлікты сваіх герояў. У маленькай сядзібе адбылося нечаканае: былая гаспадыня дома, якую любіла ўся сям'я, раптоўна памерла. Ні муж, ні дзеткі не маглі паверыць у гэта. Кожны дзень яны ўспаміналі чароўную Анастасію і пакутавалі па ёй.

Як толькі жыццё ў гэтым доме стала наладжвацца, дзве дачкі памерлай маці вырашылі выклікаць яе дух. З гэтага моманту ўтульная сядзіба на беразе возера ператварылася ў цэнтр містычных падзей. Анастасія пачала хадзіць па доме, палохаючы ўсіх жыльцоў. Былы муж, толькі прывычаіўшыся да думкі, што каханай больш няма, пабачыўшы яе зноў, вырашыў, што звар'яцеў. Адна за адной разгортваюцца падзеі, раскрываюцца таямніцы. Як высвятляецца, добрая і высакародная Анастасія не захоўвала вернасці свайму мужу.

Гэта тэатральная пастаноўка цалкам закончаная, не пазбаўленая гумару, што дазваляе не адчуваць цяжкасці сюжэта і спакойна сачыць за развіццём вобразаў. Шмат кахання і смерці ў гэтым спектаклі, шмат эстэтыкі і разваг. Драматычны фінал не адпускае яшчэ некалькі дзён пасля прагляду.

Глядзіце беларускае!

**Вікторыя АСКЕРА,**
**фота аўтара**

*Між іншым*

# І чацвёрты званок... Патрэбны?

**У цывілізаваным грамадстве тэатр пачынаецца, бадай, з асаблівага этыкету. «Сакрэтная дамова» паміж усімі ўдзельнікамі тэатральнай дзеі дыктуе, як трэба сябе паводзіць, якую ролю выконваць у агульным рытуале. Касір прадае квіткі, супрацоўніцы тэатра рыхтуюцца да наплыву гледачоў, раскладваюць праграмкі. У гэты ж час ідуць апошнія падрыхтаванні да спектакля на сцэне і па-за ёю: памочнікі правяраюць дэкарацыі, святло і гук, акцёры накладаюць грым і апранаюцца, рэжысёр сочыць, хвалюецца...**

Роля гледача, хаця і не апошняя па важнасці, але, мабыць, самая простая. Што трэба? Прыйсці да пачатку спектакля не пазней за трэці званок, мець пры сабе квіток і настрой на ўспрыманне мастацтва. Сеў на сваё месца, цемра, зараз пачнецца... На сцэне варушэнне, мігценне, клубы дыму… І тут у зале бадзёранька і пранізліва пілікае модны рынгтон. Хтосьці аглядаецца, павісае няёмкасць. Нарэшце, увага зноў засяроджана на спектаклі… да новага пілікання, калі першае не апошняе. Усе ведаюць і без папярэджання: выключыце мабільныя тэлефоны! Гэта для «новенькіх». Таксама складнік рытуалу. Аднак парадаксальным чынам амаль у кожным тэатры папярэджанне пра выключэнне гуку тэлефона падчас спектакля — тыя два элементы, што ў свядомасці гледача ідуць рука ў руку, так жа, як антракт і буфет. Ды і акцёрам не замінае. Прывыклі? Але выпадковае ўмяшальніцтва гледача ў ход тэатральнай дзеі лічыцца непажаданай формай інтэрактыву. Міжволі «пілікание» становіцца часткай спектакля. Здаецца, нічога з гэтым не зробіш, лепш не заўважаць.

«Не!» — вырашыў беларускі рэжысёр Яўген Карняг, кіраўнік вядомага ў тэатральных колах эксперыментальнага «Карняг-тэатра». Усемагутныя, трохтысячагадовыя гераіні новага спектакля Карняга «Інтэрв'ю з вядзьмаркамі» праблему не ігнаруюць. Менавіта адна з вядзьмарак асабіста тэлефануе няпамятліваму ўладальніку тэлефона (апошнія лічбы нумара — дэманічныя тры шасцёркі) і пагражае ўяўнаму Андрэю помстай: «Ну, ты разумееш, на што я здольная…»

Прэм'ера спектакля адбылася ў сталічным Тэатры лялек за два тыдні да паказу там жа ў межах Міжнароднага форуму тэатральнага мастацтва «ТЭАРТ-2015». Не змаглі не заўважаць і тых, хто спазніўся, працiскваючыся на свае месцы праз пятнаццаць хвілін ад пачатку спектакля. Пасля прадстаўлення адбылося абмеркаванне з рэжысёрам і акцёрамі. У адрас «вядзьмарак» і Яўгена Карняга ад гледачоў прагучала шмат падзяк, а рэжысёр не мог не паскардзіцца: «Ёсць людзі, у якіх адносіны да тэатра — як да гамбургера, як да фаст-фуду... У некаторых тэатрах няма ручкі са зваротнага боку: ты можаш выйсці, але зайсці не можаш. Хочацца зрабіць тое самае, каб людзі разумелі, куды ідуць. І што акцёры іх чуюць».

Насамрэч чалавек быццам прыйшоў у тэатр сцвердзіць свае спажывецкае права — дзеля гэтага заплаціў за квіток кроўнымі. Але прыйшоў не ў краму ці на стадыён — у храм мастацтва. Спектакль — справа тонкая. Мастацкая рэч патрабуе вялікіх высілкаў не аднаго чалавека, а цэлай каманды прафесіяналаў. Умовы цішыні, уважлівасць, рэакцыя там, дзе яна дарэчы, — вось што вінен тэатру выхаваны глядач.

Толькі тады знікне загана чацвёртага званка ў беларускіх тэатрах. Усё будзе як мае быць: трэці званок, рассоўваецца заслона… Застаюцца глядач і высокае мастацтва, і паміж імі — ніякіх перашкод!

**Паліна ПІТКЕВІЧ**

# На ідэю адгукнуліся!

**Прэм’ера спектакля «Пясняр» адбылася ў Нацыянальным акадэмічным драматычным тэатры імя М.Горкага ў кастрычніку мінулага года. Спектакль і па сёння застаецца запатрабаваным і актуальным сярод гасцей і жыхароў Беларусі, квіткі на яго разыходзяцца хутка. Пра ідэю стварэння «Песняра», асаблівасці тэатральнай пастаноўкі і пра сваё прафесійнае жыццё чытачам «ЛіМа» распавяла рэжысёр-пастаноўшчык спектакля Валянціна Еранькова:**



Валянціна Еранькова.

— Калі мне было шэсць гадоў, бацькі пераехалі на Украіну. Там я скончыла школу і пражыла адзінаццаць год. А пасля ўсё свядомае жыццё жыву ў Беларусі.

На маім цікавым творчым шляху выпала магчымасць паставіць спектакль «Пясняр». Спачатку ўспрыняла гэту думку скептычна. Вельмі не хацелася паўтарацца. Беручыся за новы праект, заўсёды пытаеш сябе, ці зможа гэтая пастаноўка здзівіць гледача, успрымацца на адным дыханні. Аднойчы мы сядзелі ў кампаніі з былым намеснікам дырэктара нашага тэатра Валянцінай Аляксееўнай Сцяпанавай, размаўлялі пра сённяшні час, абмяркоўвалі погляды на жыццё. Тады я была ў пошуку тэмы, сюжэта новай пастаноўкі. І за гэтай прыемнай размовай прагучала фраза: «Чаму ніхто не ставіць спектакль пра Мулявіна?». Менавіта так і было кінута зярнятка, якое вырасла ў паўнавартасны праект. Хутка я вярнулася да гэтай ідэі і зразумела, як трэба ставіць спектакль. У галаве круціліся: Мулявін, Багдановіч, Цётка, Колас, Купала... Усё гэта — Беларусь!

Для працы над спектаклем быў запрошаны драматург Васіль Дранько-Майсюк. Менавіта такі чалавек — малады, па-добраму нахабны, крэатыўны, упэўнены ў сабе — павінен працаваць над такім праектам. Многія калегі па цэху задавалі пытанні: хтосьці не разумеў, чаму я звярнулася да Мулявіна, хтосьці проста здзіўляўся. Да апошняга не раскрывала карты — была ўпэўнена, што на маю ідэю ў выніку адгукнуцца.

Я вельмі ўдзячная за сумесную працу мастаку-сцэнографу Андрэю Меранкову, які ўвесь час падтрымліваў мяне. Ён адчуваў тэму, якая павінна гучаць у гэтай сцэнічнай прасторы. Страшна казаць, колькі макетаў было загублена, але ж мы шукалі ідэал і агульнымі намаганнямі прыйшлі да выніку.

Кампазітар і музычны кіраўнік Аляксей Еранькоў на кожным этапе працы падтрымліваў нашага драматурга Васіля — Аляксей стварыў усю музычную канву спектакля. Быў момант, калі Васіль хацеў пакінуць праект. Нягледзячы на амбіцыі і дзёрзкі характар, ён прыслухаўся да мяне. Я вельмі ўдзячна яму за гэта.

Калі я толькі пачала працу над спектаклем, п’есы ў мяне яшчэ не было, але



Сцэна са спектакля «Пясняр».

ўжо на той момант ведала, хто і каго будзе іграць, ведала, на каго буду абапірацца і хто будзе побач. Наш пясняр, акцёр Сяргей Жбанко, у поўнай меры адчуў сэнс маёй задумы і да апошняга моманту заставаўся верным свайму герою. Не атрымаўся б спектакль без таленту, густу і стылю мастака па касцюмах Тацццяны Лісавенка, з якой мы працуем ужо не адзін год.

Уладзімір Мулявін аб’ездзіў 56 краін свету, расказаў усім пра нашу зямлю праз свае геніяльныя кампазіцыі. Пражыўшы жыццё са сваімі героямі і калектывам, я адчула заспакаенне.

**Вікторыя АСКЕРА**

# НЕместачковы падыход

**Мар’іна Горка — горад невялікі, але мастацкая галерэя тут уражвае: карціны Генрыха Бржазоўскага, Мікалая Дучыца, Анатоля Бараноўскага, Леаніда Гоманава, Нінэль і Лады Счасных, Мікалая Валынца, Сяргея Каткова, Уладзіміра Даўгяло, Уладзіміра Сухаверхава, Соф’і Лі, Леаніда Леўчанкі, Васіля Барташэвіча.**



Барыс Рэпін і Аляксандр Прановіч падчас адкрыцця выстаўкі.

Гэта заслуга ў першую чаргу дырэктара галерэі Аляксандра Прановіча. Калі ў 1993 годзе ён стаў дырэктарам Пухавіцкага раённага краязнаўчага музея, у фондах ужо былі карціны многіх беларускіх мастакоў. Аляксандр Аляксандравіч імкнуўся папоўніць калекцыю. У 2002-м, калі музею перадалі адну з залаў былога Палаца культуры, было вырашана размясціць у ёй мастацкую галерэю.

Глыбокая адукаванасць і інтэлігентнасць самога дырэктара вабілі таленавітых людзей у музей. Аляксандр Прановіч сябраваў з пісьменнікам Іванам Чыгрынавым, сябруе з кампазітарам Ігарам Лучанком. Свае работы галерэі дарылі шматлікія майстры пэндзля. Нярэдка музей сам купляў палотны жывапісцаў. І, такім чынам, за два дзесяцігоддзі сабралася больш як 260 работ.

Музей размешчаны ў пяці месцах і складаецца з пяці аддзелаў. Асноўны музейны корпус знаходзіцца ў сядзібным доме ў Блоні, у Мар’інай Горцы — мастацкая галерэя і аддзел «Героі і подзвігі», у вёсцы Блужа — музей Героя Савецкага Саюза Мікалая Чэпіка, у вёсцы Гарэлец — аддзел «Партызанская слава». Ёсць у галерэі сябры — мастакі Аляксандр Пашкевіч, Барыс Рэпін, скульптар Аляксандр Фінскі… У першую чаргу ў музеі збіраюць творчую спадчыну мастакоў, якія былі звязаны з гэтымі месцамі.



Барыс Рэпін «У электрычцы».

Леанід Гоманаў пасля заканчэння мастацкага вучылішча працаваў мастаком у Доме культуры Мар’інай Горкі. Карціна Анатолія Бараноўскага, дарэчы, напісана непадалёк ад вёскі Дукора. Уладзімір Сухаверхаў і Соф’я Лі ваявалі тут з ворагам у час Вялікай Айчыннай вайны. Генрых Бржазоўскі, ганаровы грамадзянін г. Мар’іна Горка, партызаніў у Беларусі, сябраваў з пухавіцкімі партызанамі.

Дырэктар імкнецца пастаянна мяняць экспазіцыю, адкрываць новыя імёны. Вось і нядаўна тут адкрылася юбілейная выстаўка Барыса Рэпіна. Карыстаючыся выпадкам, задала некалькі пытанняў майстру.

— Што вам бліжэй па духу: сцэнаграфія, жывапіс або графіка?

— Цяжка адказаць... Я вельмі доўга працаваў на беларускім тэлебачанні ў якасці мастака-пастаноўшчыка. Шмат афармляў фільмаў-канцэртаў. У кіно мне падабаецца тое, што дэкарацыі трэба рыхтаваць у сціснутыя тэрміны. Гэта мабілізуе. А калі ёсць вольная хвіліна — пішу карціны. І няважна, з чым працую, — акварэллю, алеем або тэмперай.

— У вашых карцінах тонка перададзены псіхалагічны стан і настрой людзей...

— Хочацца, каб чалавека нешта закранула. Аднойчы ўбачыў жабрака, а ў савецкія часы ў нас іх не было, і ачмурэў. Стаіць з шапкаю… Такі твар у яго быў... Яшчэ вельмі ўразіла атэльe мастака ў Празе. Асабліва зацікавіў адмысловы гадзіннік. Разагаварыліся з гаспадаром майстэрні, пасябравалі, і я цэлы месяц працаваў побач з ім. Так і нарадзілася карціна «Атэльe мастака ў Празе».

Вось такія культурныя адкрыцці можа падарыць галерэя ў Мар’інай Горцы!

**Вольга ГОМАНАВА, мастацтвазнаўца, фота аўтара**

# Камароўка — Манмартр

**У Дзяржаўным літаратурным музеі Янкі Купалы адкрылася выстаўка «Цэлы свет мне адкрыты», прысвечаная 80-годдзю мастака Барыса Заборава.**

Творца нарадзіўся ў Мінску. Творчы шлях яго быў цесна звязаны з літаратурай і кнігамі: Барыс Забораў шмат працаваў як ілюстратар, кніжны графік і дызайнер, адкрываў для чытачоў свет цудоўных вобразаў Уільяма Шэкспіра, Аляксандра Пушкіна, Оскара Уайльда, Рыгора Барадуліна, Максіма Танка. Куратар выстаўкі Марыя Барткова адзначыла: «Хоць мастак не надта любіў сябе ў іпастасі кніжнага ілюстратара, для музея Янкі Купалы — гэта самая цікавая старонка яго біяграфіі, бо Барыс Забораў у 1966 годзе стварыў серыю лінагравюр да вершаў песняра, якія перадаў у фонды нашай установы». Выданні, ілюстраваныя беларускім мастаком, прызнаваліся «найпрыгажэйшымі кнігамі года» на конкурсе ў Маскве, атрымлівалі міжнародныя ўзнагароды.

З 1980 года Барыс Забораў жыве ў Парыжы. Тут ён раскрыўся як жывапісец з самабытнай манерай пісьма. Таму вельмі дарэчным на адкрыцці выстаўкі было выступленне маладога піяніста Аляксандра Данілава з музычнай кампазіцыяй Клода Дэбюсі «Дзяўчына з валасамі колеру льну».



Барыс Забораў «Зімовае свята», 1973 г.

Мастацтвазнаўца Нацыянальнага мастацкага музея Рэспублікі Беларусь Надзея Усава лічыць, што творчасць мастака можна ўмоўна падзяліць на тры часткі: савецкі Забораў, творы якога можна пабачыць у мастацкім музеі, Забораў-ілюстратар і парыжскі Забораў, які прызнаны ва ўсім свеце. Пра сусветнае прызнанне мастака сведчыць шэраг паспяховых выставак у Францыі, Японіі, Германіі, Італіі, Расіі. У 2008 годзе, упершыню за доўгі час, галерэя Уфіцы набыла палатно сучаснага аўтара — «Аўтапартрэт з мадэллю» Барыса Заборава. Старшыня саюза дызайнераў Дзмітрый Сурскі ўпэўнены, што Барыс Забораў — адзін з самых выбітных сучасных мастакоў Беларусі, які ў свой час стане ў адзін шэраг з Шагалам.

На выстаўцы прадстаўлены ілюстраваныя мастаком выданні, цудоўныя ўзоры кніжнай графікі, жывапісныя палотны з фондаў Дзяржаўнага літаратурнага музея Янкі Купалы, Нацыянальнага мастацкага музея Беларусі, а таксама прыватных калекцый.

**Дар’я ЛАТЫШАВА, фота аўтара.**

# Палон імёнаў непазбежны

**Лукас Бэрфус, папулярны швейцарскі празаік і драматург, мае адукацыю кнігагандляра, але ўжо многа гадоў займаецца толькі літаратурнай работай. Не так даўно ён наведаў Беларусь і падчас чытанняў у Брэсце і ў сталіцы, арганізаваных Інстытутам імя Гётэ ў Мінску, прадставіў свой раман «Каала». Гэтая кніга сёлета выйшла і ў нашай краіне ў выдавецтве «Паперус», пераклад на беларускую мову выканала Ірына Герасімовіч. Натуральна, асноўнай тэмай гутаркі з чытачамі стаў сам раман «Каала», у аснову якога пакладзеная рэальная гісторыя самагубства брата спадара Лукаса. У гэтай кнізе пісьменнік спрабуе знайсці прычыны братавага ўчынку, разважае пра ўнутраную сутнасць чалавека, жыццё, смерць і сэнс існавання на зямлі…**



*Швейцарскі пісьменнік Лукас Бэрфус.*

### МЯНУШКА І ТАТЭМ

— Каала — аўстралійская жывёла, вядомая таксама як сумчаты мядзведзь. Хоць насамрэч гэта зусім не мядзведзь, а проста сумчатае стварэнне, якое жыве на дрэвах, амаль не рухаецца, харчуецца атрутай і мусіць прывыкнуць да такой ежы яшчэ ў дзяцінстве. У свой час гэты звер быў амаль цалкам знішчаны. Менавіта такое татэмнае імя — Каала — атрымаў брат героя маёй кнігі ад сваіх сяброў-скаўтаў. Ён скончыў жыццё самагубствам. Даследуючы прычыны гэтага ўчынку, апавядальнік сутыкаецца з мянушкай, татэмам. Іншых прычын, акрамя імені Каала, для тлумачэння дзеянняў свайго брата не бачыць. Таму ён спрабуе паглыбіцца ў гісторыю мянушкі, каб высветліць, што за ёй стаіць.

Існуе меркаванне, што чалавек створаны Богам з мэтай даць імёны ўсім з'явам, а ў кнізе Адкрыцця апостала Іаана Багаслова таксама ідзе гаворка пра імя, імя Звера, лічба якога — 666. Імя заўсёды стаіць паміж светам рэчаў і нашай свядомасцю. Мы не звяртаемся да рэчаў, такіх, якія яны ёсць, мы ўвесь час у памяці трымаем іх імёны. Сустракаючыся з чалавекам, нам патрэбна ведаць яго імя. Без яго нібыта чагосьці не хапае. Абавязковая патрэба ў імені — праклён і ў той жа час пачатак чалавечай культуры.

Мы неяк таямніча звязаныя з нашым іменем. Гэта не проста значэнне, якое за ім стаіць, і не проста сукупнасць літар, з якога яно складаецца. Заўважце, толькі злачынцы і мастакі змяняюць свае імёны. Абсурдна верыць, што лёс вызначаецца тым, якое імя табе дадуць. Але, на жаль, так і ёсць. Мы ператвараемся ў тое, што іншыя людзі робяць з нас, у тым ліку даючы імя. Так і функцыянуе сацыяльнае ўзаемадзеянне. Як кажуць у тэатры: караля іграе світа. Калі акцёр выходзіць на сцэну і кажа: «Я — кароль!», публіка хістае галовамі і кажа: «Не, ты не кароль». Але калі пра яго кажуць іншыя акцёры: «Глядзі, вунь кароль!», то мы пачынаем гэтаму верыць.

### МЕСЦА ДЛЯ БОГА

— Людзі, якія працуюць з мовай, увесь час адчуваюць прагал паміж тым, што яны ўсведамляюць, і тым, што могуць назваць. Разыходжанні ў паняццях, праекцыі ў свядомасці чытача схіляюць да розначытанняў, інтэрпрэтацый, таму пісьменніку яны не дазваляюць дакладна перанесці ў свядомасць аўдыторыі тое, пра што ён піша. Літаратар — чалавек, які не давярае імёнам. І адначасова ўсведамляе, што знаходзіцца ў іх палоне.

Для самых інтэнсіўных перажыванняў, самых важных рэчаў, што мы перажываем унутры, слоў няма. Але я думаю, што гэты прагал, разрыў робіць магчымым усялякае мастацтва. Прагал паміж ідэалам, які я адчуваю ў сваёй свядомасці і хачу як мага больш дакладна выразіць, і веданнем, што магу толькі набліжацца да яго выказвання. На гэтай дыстанцыі разрыву і адбываецца мастацтва. Але як толькі тое, што я хачу сказаць, становіцца тоесным са сказаным, я бачу, што ствараю кіч. Мастацтва набывае сваю існасць толькі па-за маім намерам нешта данесці, і гэта адна з тэм кнігі «Каала». Эльза Ласкер-Шулер, нямецка-яўрэйская паэтэса, аднойчы сказала: «Трэба пакідаць месца Богу». Я не ведаю, ці пакідаю месца менавіта Богу, але ўпэўнены, што ў кнізе павінна заставацца прастора для іншага, для розных прачытанняў і інтэрпрэтацыя. І толькі там, дзе я не магу кантраляваць усё, нараджаецца жыццё.

### ЭЛЕГІЯ ПРА ЧАЛАВЕКА

— Каала — дакладны антыпод чалавечага існавання. Ён не рухаецца, не мае амбіцый, нічога не прадпрымае. Проста вісіць на дрэве. Чаму б яго не пакінуць у спакоі? Але людзі вынішчылі амаль цалкам, засталося толькі некалькі соцень прадстаўнікоў віду. Можна сцвярджаць, што гэтая кніга — элегія, сумны расповед пра прыроду чалавека, якая не прымае іншага, не здольная даваць яму прастору для існавання і зрабіць новае жыццё сваім.

Учыніць самагубства — гэта не смела. Мне здаецца, смела працягваць жыць, павярнуўшыся тварам да жыцця, знаходзіць ва ўсім тым болю, што ты адчуваеш, пэўную радасць. Я б не сказаў, што майго брата забілі людзі, якія былі навокал. Іншая справа, што яны не ўтрымлівалі яго ў жыцці. Але ў чалавека заўсёды застаецца апошні ўчынак, апошняя воля, якую ён можа выканаць. Я веру, што чалавек можа рабіць са свайго жыцця тое, што хоча, веру ў апошнюю адказнасць іншых людзей утрымліваць свайго сабрата ў жыцці.

### КАЛІ ГОРАД СПІЦЬ…

— Пакуль пішу кнігу, нічога іншага для мяне не існуе. Раніцай прачынаюся з гэтай думкай у галаве і вечарам кладуся спаць з ёй жа. Як толькі кніжка скончаная — думка знікае. Адзін выдатны пісьменнік неяк сказаў, што кожная кніга — гэта магіла. Я гэтага выслоўя ніколі раней не разумеў, бо не мог адказаць на пытанне: магіла для чаго? Пакуль не атрымаў кнігу са сваім іменем на вокладцы. Толькі гады жыцця дапісаць застаецца. Сапраўды, у гэтай кніжцы пахаваныя некаторыя рэчы.

Я пісаў яе ўночы, не мог занатаваць ніводнага радка пры дзённым святле. І не мог брацца за працу, калі нехта ў доме яшчэ не спаў. Я мусіў ведаць, што і сям'я спіць, і горад навокал спіць. Калі працую над кнігай, то ўжываю прыём прадуктыўнага адмаўлення. Я не глядзеў на каалу, калі пісаў, не чытаў пра гэтага звярка. Магчыма, таму, што разумеў: і тыя дзеці, калі давалі майму брату мянушку Каала, таксама нічога не ведалі пра гэтую жывёлу. Я выпраўляўся ў даследчыцкую вандроўку па кнігах каланізатараў, тых запісах, што яны вялі. Прачытаў шмат жорсткіх, страшных кніг у сваім жыцці, але чагосьці падобнага мне яшчэ не траплялася. Справа не толькі ў страшных падзеях, апісанных пакараннямі, а якраз у тым, як гэта апісвалася. Сёння ў інтэрнэце можна знайсці лічбавыя копіі дзённікаў брытанскіх каланізатараў у Аўстраліі. Зірніце на іх. Абсалютная жудасць — у той акуратнасці, дакладнасці, з якой рабіліся запісы. Толькі ўявіце: людзі на іншым канцы свету, адарваныя ад усялякай цывілізацыі, удзень рабілі страшныя рэчы, каралі злачынцаў і штовечар, калі апускалася цемра, адкрывалі свае дзённікі і пачыналі акуратным почыркам падрабязна пісаць пра тую жуду, што перажылі цягам дня. І так дзень за днём, год за годам.

Трэба палюбіць кожнага з герояў сваіх твораў, перш чым пісаць пра іх. Бо як я змагу праводзіць у кампаніі персанажа столькі часу, калі не лічу яго вартым павагі? Гэта не лёгка, бо ў маіх кнігах хапае мярзотнікаў. Але, можа, у гэтым якраз і ёсць нейкае дзівацтва пісьменніка: ён і ў такіх людзях спрабуе знайсці нешта чалавечае, па-мастацку асвоіць яго. Я магу не любіць людзей за тое, што яны робяць, магу адмоўна ставіцца да іх учынкаў, але не да самога чалавека.

З раманам «Каала» Лукаса Бэрфуса цяпер можа пазнаёміцца і беларускі чытач. Гэтая кніга знайшла свой шлях да айчыннага рынку дзякуючы перадусім перакладчыцы Ірыне Герасімовіч. Сама Ірына падчас імпрэзы ў Мінску распавяла:

— Упершыню я пачула ўрывак з рамана «Каала» ў Берліне, падчас чытанняў у Берлінскім літаратурным калоквіуме. Я тады зразумела, што гаворка не пра выдуманы сюжэт, галоўнае ў кнізе — чалавечы пачатак. Раман у першую чаргу пра чалавека. Тады я была ўсяго толькі гледачом у аўдыторыі, але ўсё роўна адчувала блізкасць з Лукасам. Сёння, выступаючы як перакладчык яго рамана, гэтую чалавечую блізкасць адчуваю яшчэ мацней. Праз пераклад хацела дапамагчы іншым людзям пабачыць у гэтай кнізе тое, што пабачыла я, прачытаць пра гэта.

**Марына ВЕСЯЛУХА,**
**фота прадастаўлена Інстытутам імя Гётэ ў Мінску**

# Мовай Вялікага Абая

**Творы беларускіх пісьменнікаў у перакладзе на казахскую мову асобнымі кнігамі выходзілі болей дваццаці разоў.**

Аглядаючы сённяшнія беларуска-казахскія літаратурныя сувязі, хацелася б нагадаць, што ў ХХ стагоддзі закладзены трывалы грунт стасункаў. Возьмем, да прыкладу, адзін толькі зрэз — выданне твораў беларускіх пісьменнікаў у Казахстане асобнымі кнігамі на казахскай мове. Нацыянальная дзяржаўная кніжная палата Рэспублікі Казахстан у адказ на наш зварот падлічыла: такіх кніг выдадзена 21.

— З першых выданняў — раман народнага пісьменніка Беларусі Івана Шамякіна «Глыбокая плынь», які пераклаў на казахскую мову выдатны празаік Жакен Жумаканаў, — расказвае старшыня Нацыянальнай кніжнай палаты Казахстана Жанат Сейдуманаў. — Ён, як і Іван Пятровіч, — удзельнік Вялікай Айчыннай вайны. У 1930-я гады настаўнічаў. Раман па-казахску выйшаў у 1954 годзе. Тады Жакен Жумаканаў працаваў у газеце журналістам. Першая яго арыгінальная кніга — аповесць «Шляхі паходаў» выйшла у 1950 годзе. Пазней былі выдадзены зборнікі «Шлях салдата», «Любоў і кар'ера», «Я — рабочы», раман «Канец сцяжыны».

Дарэчы, у 1987 годзе выйшаў у свет па-казахску другі раман Івана Шамякіна — «Сэрца на далоні». Перакладчык — Тауман Амандосаў, вядомы практык і тэарэтык журналістыкі.

Казахскі чытач на роднай мове адкрыў для сябе кнігі Янкі Маўра, Васіля Быкава, Івана Мележа, Алеся Адамовіча, Петруся Броўкі (па рамане «Калі зліваюцца рэкі»). «Палескіх рабінзонаў» пераклаў Т. Мізамбекаў. «Альпійскую баладу» Васіля Быкава — Н. Габдулін і А. Жумабаеў. «Людзі на балоце» Івана Мележа — А. Шаншараў. Раман пабачыў свет у 1980 годзе ў выдавецтве «Жазушы». Тыраж — 10 тысяч экзэмпляраў. Такім самым накладам выйшла і «Хатынская аповесць» Алеся Адамовіча (у 1982 годзе), якую пераклаў Б. Нусіпбекаў.

Убачылі свет на казахскай мове і вершаваныя зборнікі Максіма Танка (1972 год), Эдзі Агняцвет (1973), Валянціна Лукшы (1989). Перакладчык Максіма Танка — Халіжан Бекхожын, народны пісьменнік Казахстана. У 1942 — 1946 гадах — ваенны журналіст. З 1949 года знаходзіўся на творчай рабоце. Між іншым Халіжан Бекхожын шмат перакладаў. У тым ліку і творы Аляксандра Пушкіна, Міхаіла Лермантава, Мікалая Някрасава, Максіма Горкага, Уладзіміра Маякоўскага ды іншых.

У Казахстане выйшла некалькі анталогій беларускай прозы, беларускай паэзіі ў перакладзе на казахскую мову — у 1972, 1979, 1984 і 1991 гг. Укладальнікамі іх, як правіла, з'яўляліся беларускія пісьменнікі — Артур Вольскі, Уладзіслаў Рубанаў. Выдадзена па-казахску і славутая кніга дзіцячых маналогаў пра Вялікую Айчынную «Ніколі не забудзем» (у 1972 годзе).

Тройчы выходзілі ў Казахстане асобнымі выданнямі творы народнага паэта Беларусі Якуба Коласа. У 1956 годзе — дваццацітысячным накладам аповесць «Дзед Талаш», перакладчык — З. Акышаў. У гэтым жа годзе — зборнік «Вершы» ў перакладзе ўжо згаданага Халіжана Бекхожына. А ў 1982-м, якраз да стагоддзя з дня нараджэння, убачыла свет кніга паэзіі Якуба Коласа «Голас зямлі». Перакладчык — Кайрат Жумагаліеў. За прапаганду беларускай літаратуры ў Казахстане ён быў адзначаны Ганаровай граматай Вярхоўнага Савета БССР. У 1982 годзе ўбачыла свет і казахскае выданне «Выбраныя паэмы і вершы» Янкі Купалы.

Такая вось хроніка выдання беларускіх кніг на мове Вялікага Абая. Безумоўна, за ўсім гэтым — свае гісторыі, стасункі аўтараў і перакладчыкаў, можа, цікавыя нагоды для пераўвасаблення тых альбо іншых твораў па-казахску. Магчыма, з часам архівы і болей настойлівы пошук падкажуць нешта новае. Будзем спадзявацца.

**Мікола БЕРЛЕЖ**

# Дарогамі рамантыка

**Выстаўка «Пілігрым свабоды», прысвечаная Адаму Міцкевічу і яго паэме «Дзяды», адкрылася ў Нацыянальным мастацкім музеі Беларусі. Экспазіцыя распавядае пра жыццё і творчасць выбітнага паэта эпохі рамантызму.**

Гэта сумесны праект установы, Пасольства Рэспублікі Польшча, Дзяржаўнага музея гісторыі беларускай літаратуры, Цэнтральнай навуковай бібліятэкі імя Якуба Коласа НАН Беларусі і Мінскага мастацкага каледжа імя А. К. Глебава. Мэта арганізатараў — паказаць шматграннасць асобы класіка, пазнаёміць наведвальнікаў з найбольш цікавымі момантамі яго біяграфіі, літаратурнай спадчынай.


*Юзэф Аляшкевіч «Партрэт Адама Міцкевіча», 1828 г.*

Перад гледачамі — шырокая панарама грамадскай і творчай дзейнасці паэта. Прадстаўлена каля 67 экспанатаў з Варшавы і Мінска: біяграфічныя стэнды на польскай мове, спецыяльная выстаўка пра паэму «Дзяды», прыжыццёвыя і пазнейшыя выданні твораў паэта, яго карэспандэнцыі, лекцыі і публіцыстыка. Дапоўнілі экспазіцыю скульптуры студэнтаў Мінскага мастацкага каледжа імя А. К. Глебава, створаныя ў межах спецыяльнага конкурсу. Маладыя аўтары — Аляксей Ціхановіч, Міхаіл Буцкевіч, Лізавета Масарэнка, Дзмітрый Манкевіч — прадставілі ўласнае бачанне свету творчасці паэта. Вобразы, увасобленыя ў работах, загадкавыя і таямнічыя, прасякнутыя духам рамантыкі і містыцызму.

Асаблівую цікавасць выклікаюць унікальныя выданні, прадастаўленыя з фондаў Цэнтральнай навуковай бібліятэкі імя Якуба Коласа НАН Беларусі. Як паведаміла дырэктар Дзяржаўнага музея гісторыі беларускай літаратуры Лідзія Макарэвіч, на выстаўцы можна пабачыць больш як 30 кніг, у тым ліку першыя выданні паэмы «Пан Тадэвуш», якія з'яўляюцца бібліяграфічнай рэдкасцю і маюць вялікую каштоўнасць.

«Любоў да творчасці Адама Міцкевіча аб'ядноўвае і беларусаў, і палякаў, — адзначыў падчас адкрыцця Часовы Павераны ў справах Рэспублікі Польшча ў нашай краіне Міхал Хабрас. — Праект — яскравае сведчанне роднасці культурных і духоўных каранёў братэрскіх народаў».


*Фота Кастуся Дробава.*

*Дзмітрый Манкевіч «Конрад. Несправядлівы суд», 2015 г.*

Экспазіцыю можна наведаць да 9 лістапада.

**Ганна ПАЛЯКОВА**


*Міхаіл Гаўрыленка «Прадчуванне вясны».*

# Застацца сябрамі

**У мастацкай галерэі «Вільнюс», што працуе на базе сталічнай бібліятэкі № 18, адкрылася выстаўка «Сябры». Аўтары — члены Беларускага саюза мастакоў Уладзімір Кожух, Уладзімір Дзядзюля, Анатоль Бяляўскі, Міхаіл Гаўрыленка, скульптар Аляксандр Батвінёнак. Экспануюцца і работы Ігара Арлова, выбітнага майстра станковага жывапісу, які зусім нядаўна пайшоў у іншы свет.**

Загадчык бібліятэкі і кіраўнік галерэі «Вільнюс» Кацярына Зверава зазначыла, што першапачаткова меркавалася адкрыць персанальную выстаўку Анатоля Бяляўскага. Але мастак сам выступіў ініцыятарам калектыўнай экспазіцыі. На яго думку, выстаўка «Сябры» — свет без межаў, які пераплятаецца са светам мастацтва, жывапісам, творчасцю ўвогуле.

Пакідаючы нас, мастакі застаюцца ў памяці, у коле сяброў. Хвілінай маўчання ўшанавалі на выстаўцы таленавітага рупліўца Ігара Арлова.

Сярод прадстаўленых работ — скульптуры А. Батвінёнка «Пікаса», «Ф. М. Дастаеўскі», «Ван Гог», «Партрэт Савіцкага»; «Тры свечкі», «Каравай», «На Вялікдзень» Уладзіміра Кожуха, «Прадчуванне вясны» Міхаіла Гаўрыленкі, «Час буслоў» Уладзіміра Дзядзюлі, «Роздум» ды «Адступленне» Анатоля Бяляўскага, «Лясное возера» Ігара Арлова… Асобнае месца ў экспазіцыі належыць партрэту мастака І. Арлова пэндзля А. Бяляўскага, аўтара партрэтаў Уладзіміра Кожуха і Уладзіміра Сытчанкі.

**Яна ЯВІЧ**

# У царстве мараў

**Складана не ўпасці ў роспач змрочным восеньскім надвор'ем. Але заўсёды ёсць рашэнне — пераключыцца, зірнуць на свет вачыма... напрыклад, Васіля Касцючэнкі! Мастак зноў парадаваў мінчан і гасцей сталіцы сваёй выстаўкай «Умоўная рэальнасць» — на гэты раз у Галерэі мастацтва.**


*Васіль Касцючэнка «Вяртанне».*

Калегі і знатоўцы творчасці жывапісца прыйшлі да адзінай думкі: яго карціны заўсёды ствараюць святочны настрой, даюць другое дыханне, напаўняюць святлом і сіламі для далейшага руху. І гэта не перабольшанне. Варта зірнуць на палатно пад назвай «Крынічная вада». Чалавек з німбам п'е з вялікага глінанага кубка, а вакол дзіўным чынам рассыпаюцца яблыкі і грушы. Саспелыя плады з даўніх часоў асацыююцца з новым жыццём, сталасцю, неўміручасцю.

Чапляе і карціна «Прагулка», што сімвалізуе жаданне вырвацца з паўсядзённай руціны. На палатне ажываюць рамантычныя думкі маладой дзяўчыны, якая марыць пра весялосць, адпачынак, танцы. Праекцыя думак, што нагадваюць фантастычныя сны, — гэты прыём аўтар выкарыстоўвае даволі часта.

На яго карцінах можа раптам з'явіцца і Чырвоная Шапачка, і казачныя фігуркі людзей, што лунаюць у паветры ці «адпачываюць» на каляровых талерках. Шмат партрэтаў, агоненых жаночых фігур, сакавітых пейзажаў, а яшчэ — згадак пра лета, сонца і мора.

«Накіраванае імгненне» — так называецца карціна, дзе «пасяліўся» бык сіняга колеру. Што меў на ўвазе аўтар? Сіні — увасабленне спакою, а бык, наадварот, сімвалізуе несціханую энергію. Здаецца, Васіль Касцючэнка лічыць, што ўсё ў жыцці ўмоўна, імгненна, зменліва.


*Васіль Касцючэнка «Лета».*

Мастацтвазнаўца Галерэі мастацтва Ульяна Фядотава адзначае: «Унікальнасць работ Васіля Касцючэнкі — у яго віртуозным умені паднесці колер так, каб ён гучаў патрэбным акордам у агульным аркестры палатна. Часам палітра яго карцін настолькі красамоўная, што становіцца дамінантай усяго твору». Дададзім: дынамічныя спалучэнні колераў выдаюць моцны тэмперамент аўтара. Тым не менш яго кантрасты ніколі не пазбаўлены гармоніі.

Мастак Уладзімір Шапо, віншуючы сябра з выстаўкай, адзначыў: карціны Васіля Касцючэнкі з'яўляюцца працягам вялікіх традыцый віцебскай школы, якая бярэ пачатак ад Марка Шагала, Юдэля Пэна, Казіміра Малевіча.

Сам аўтар прызнаўся, што ў творчасці яму дапамагае вострае адчуванне кожнага імгнення жыцця, а таксама ўменне весці сумленны дыялог — з часам і людзьмі.

Васіль Касцючэнка — член Саюза мастакоў Беларусі, Міжнароднай гільдыі жывапісцаў. Трынаццаць гадоў працаваў выкладчыкам у Мінскім дзяржаўным мастацкім вучылішчы імя А. К. Глебава. Удзельнік рэспубліканскіх і міжнародных выставак у Беларусі, Расіі, Швецыі, Бельгіі, Францыі, Люксембургу, Вене. У 2007 годзе стаў уладальнікам спецыяльнай прэміі Прэзідэнта Рэспублікі Беларусь за значны ўклад у развіццё і прапаганду беларускага выяўленчага мастацтва, актыўную выставачную дзейнасць.

**Марыя ВОЙЦІК**


ЛіМ
Выходзіць з 1932 года
У 1982 годзе газета ўзнагароджана ордэнам Дружбы народаў

Заснавальнікі:
Міністэрства інфармацыі Рэспублікі Беларусь,
грамадскае аб'яднанне «Саюз пісьменнікаў Беларусі»,
рэдакцыйна-выдавецкая ўстанова «Выдавецкі дом "Звязда"»

**Намеснік галоўнага рэдактара**
**Інеса Яўгенаўна ПЕТРУСЕВІЧ**





**Адрас рэдакцыі:**
**Юрыдычны адрас:**
220013, Мінск,
вул. Б. Хмяльніцкага, 10-а
E-mail: info@zvyazda.minsk.by

**Адрас для карэспандэнцыі:**
220013, Мінск, пр. Незалежнасці, 77
E-mail: lim_new@mail.ru
Адрас у інтэрнэце: www.lim.by

**Тэлефоны:**
галоўны рэдактар — 292-20-51
намеснік галоўнага рэдактара — 287-17-98
адказны сакратар — 292-20-51
аддзел крытыкі і бібліяграфіі — 292-56-53
аддзел прозы і паэзіі — 292-56-53
аддзел мастацтва — 292-20-51
аддзел «Кніжны свет» — 292-56-53
бухгалтэрыя — 287-18-14

Тэл./факс — 292-20-51



Выходзіць раз на тыдзень па пятніцах.

**Падпісныя індэксы:**
63856 — індывідуальны;
63815 — індывідуальны льготны для настаўнікаў;
638562 — ведамасны;
63880 — ведамасны льготны.

Пасведчанне аб дзяржаўнай рэгістрацыі сродку масавай інфармацыі № 7 ад 10.12.2012, выдадзенае Міністэрствам інфармацыі Рэспублікі Беларусь.

**Выдавец:**
Рэдакцыйна-выдавецкая ўстанова «Выдавецкі дом "Звязда"».
Дырэктар — галоўны рэдактар Аляксандр Мікалаевіч КАРЛЮКЕВІЧ

Тэхнічны рэдактар, камп'ютарная вёрстка: А. В. Бізункова
Камп'ютарны набор: Г. Я. Палякова
Стыльрэдактар: Н. А. Святлова
Нумар падпісаны ў друк 29.10.2015 у 11.00
Ум. друк. арк. 3,72
Наклад — 1907.
Кошт у розніцу — 3900 рублёў

**Адкрытае акцыянернае таварыства «Чырвоная зорка»**
ЛП № 02330/99 ад 14.04.2014
Зав. 1-ы Загарадны, 3,
220073, Мінск.

Заказ — 1495 г
Д 1 2 3 4 5 6 7 8 9 10 11 12
М 1 2 3 4 5 6 7 8 9 10 11 12